*Краязнаўчае таварыства імя К. Тызенгаўза*
*Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны*

**Пракаповіч, І.**
Спорскі край: Вёска Вялікія Споры і яе ваколіцы / Ігар Пракаповіч. – Паставы: ТБМ, 2015. – 84 с.: іл.

*У новай кнізе пісьменніка і краязнаўцы І. Пракаповіча распавядаецца пра прыроду, гісторыю і адметныя мясціны аднаго з прыгажэйшых куточкаў паўночна-заходняй Беларусі - Спорскага краю.*

*Выданне будзе карыснае для ўсіх, хто цікавіцца роднымі мясцінамі, любіць падарожнічаць сцяжынкамі Бацькаўшчыны.*

# СПОРСКІ КРАЙ

Спорскі край – мясцовасць незвычайнай прыгажосці, дзівоснае спалучэнне высокіх стромкіх узгоркаў і глыбокіх празрыстых азёр, маляўнічых густых пералескаў і высакатраўных духмяных лугоў, невялікіх вёсачак і закінутых хутароў. Тут даўняя і не вельмі даўняя гісторыя арганічна ўплятаецца ў штодзённы побыт мясцовых жыхароў і гасцей, а легенды і паданні надаюць тутэйшым краявідам рамантычную таямнічасць і загадкавасць.

Спорскі край – адзін з прыгажэйшых куточкаў не толькі Пастаўшчыны, але і ўсяго Паазер’я. Ляжыць ён у паўночна-заходняй частцы Беларусі паміж гарадамі Паставы і Мядзел на невялікай адлегласці ад “беларускага мора” – возера Нарач. Яго цэнтрам можна лічыць вёску Вялікія Споры, якая забудавалася на высокіх узгорках у атачэнні азёр Світа, Світка і Асцюццева (Споркі). У раннім сярэднявеччы тут знаходзіўся адзін з маёнткаў князёў Свірскіх, ад якога цяпер застаўся толькі падмурак, а каля былой сядзібы вырасла невялікая вёсачка, якую на сённяшні дзень засяляюць пераважна дачнікі.

Значна большае суседняе паселішча Шыркі. Тут ёсць магазін, сельскі савет, кантора мясцовага сельгаспрадпрыемства, ферма. Да нядаўняга часу дзейнічала школа.

Раней тутэйшая мясцовасць была заселена даволі шчыльна, але хат мелася нямнога, бо складаны рэльеф і вялікая азёрнасць абмяжоўвалі магчымасці абрабляць зямлю і гадаваць скаціну. Буйнейшымі вёскамі Спорскага краю былі Яцавічы, Сіманькі, Ананічы, Салаўі, Крэўні, Паздзюткі, Фалевічы. На багацейшых землях стаялі фальваркі: Малыя Споры, Малая Чэцверць, Шпакі, Наруці, Шапцішкі. На менш урадлівых надзелах жылі гаспадары-аднаасобнікі. У ваколіцах Вялікіх Спор было даволі многа хутароў: Асінаўка, Свяцішкі, Лесунова, Старая і Новая Шаркаўшчызна, Вінцэнтава, Янова, Звярынец, Юшкаўшчызна. На сённяшні дзень ад тых сядзіб засталіся або падмуркі, або плямы былой раллі, якія паступова зарастаюць маладым хмызняком.

Сыходзяць людзі, знікаюць вёскі, мяняецца свет… Гэта кніга – маленькая крынічка памяці незвычайнага па прыгажосці куточка беларускай зямлі – Спорскага краю.




*Спорскі край на карце 30-х гадоў XX стагоддзя*

# АДКУЛЬ ПАЙШЛІ НАЗВЫ

Першажыхарамі Спорскага краю былі, верагодна, прадстаўнікі фіна-ўгорскіх і балцкіх плямёнаў, якія пакінулі свой след на гэтай зямлі не толькі ў матэрыяльных рэштках археалагічных помнікаў, але і ў некаторых назвах, асабліва ў найменнях водных аб'ектаў. Славяне, якія рассяліліся тут у сярэдзіне першага тысячагоддзя нашай эры, некаторыя назвы запазычылі, часткова сказілі, але ў большай ступені ўтварылі новыя. Таму зараз у гэтай мясцовасці складана пераплятаюцца найменні розных гістарычных эпох, розных народаў. З гэтай прычыны для некаторых назваў немагчыма вызначыць іх паходжанне і першапачатковы сэнс. Вось, напрыклад, **Споры**. Так называецца вёска, возера, маёнтак, фальварак у невялікіх інтэрпрэтацыях: Споры Вялікія і Малыя, Спорki, Спорскае возера, возера Споры. Існуе некалькі цікавых варыянтаў тлумачэння гэтай назвы. Першая версія сягае ў глыбокую старажытнасць да пісьмовых крыніц, якія пакінуў славуты візантыйскі гісторык Пракопій Кесарыйскі. У сваіх шматлікіх творах, якія былі напісаны ў 530-550 гг. ён многа ўвагі ўдзяляў славянам. Паводле яго сцверджанняў, славяне (славянскія плямёны склавіны і анты) спрадвеку мелі агульную назву - Vporoi (споры). Цікава, што на поўдні Беларусі, на Палессі таксама сустракаюцца назвы з асновай "спор". Вось што піша пра іх Фёдар Клімчук: "У сувязі з этнонімам Vporoi (споры) для нас цікавы наступны факт. У часы Пракопія Кесарыйскага мяжа паміж славянамі і балтамі праходзіла па тэрыторыі Палесся. Менавіта на тагачасным славяна-балцкім узмежжы, знаходзіцца Спораўскае возера (мясц. Споровсько"е о'зэро; у межах Бярозаўскага і Драгічынскага раёнаў Брэсцкай вобласці), вёска Спорава (мясц. Спо'рово; Бярозаўскі раён), Спораўскія балоты (мясц. Споровськы'йі болота'; Бярозаўскі раён). Наваколлі Спораўскага возера ў той час былі заселены славянамі (па-тагачаснаму - спорамі). Далей на поўнач цягнуліся незаселеныя балотна-лясныя масівы. А ў раёне сучасных

Івацэвіч пачыналіся ўжо пасяленні балтаў. Такім чынам, у эпоху Пракопія Кесарыйскага паміж сучаснымі населенымі пунктамі Спорава і Івацэвічы праходзіла этнічная балцка-славянская мяжа. У межах навакольляў Спораўскага возера канчалася краіна, якую засялялі славяне або, як іх называе Пракопій Кесарыйскі, - споры. У Панямонні, у тым ліку па рэчцы Грыўда, на якой размешчаны Івацэвічы, жылі тады балты. А ў басейне р. Ясельды пачынаўся ўжо край славянскі або, на мове таго часу, спораўскі.”



*Від на вёску Вялікія Споры*

Гэта версія можа быць прыдатная і для Пастаўшчыны, бо тут якраз каля Спораў доўгі час праходзіла мяжа паміж славянамі і балтамі, а фальклорна-этнаграфічныя адрозненні паміж Лынтупшчынай і Варапаеўшчынай захоўваюцца і да цяперашняга часу. Такі варыянт тлумачэння дае падставы лічыць, што вёска і возера Споры ўтварыліся ад таго, што гэтыя мясціны былі заселены славянамі-спорамі.

Другая версія выводзіць паходжанне назвы ад ракі Спарыца, якая злучае азёры Споры і Задзеўскае. Калі

палічыць, што засяленне гэтай мясцовасці ішло па рацэ, то яе найменне і павінна быць першаасновай. Прыдатнае тлумачэнне даюць славянскія мовы. *"Спорная вада"* – гэта месца, дзе сыходзяцца дзве плыні, ці як пісаў ў сваім слоўніку У. Даль, адбываецца "сшибка встречных потоков". Сапраўды, недалёка ад возера Задзеўскага ў Спарыцу ўпадае рака Глодаўка. На месцы сутокаў існавала невялікае возера, якое зараз ператварылася ў балота. У гэтым возеры і маглі актыўна праяўляцца буруны, вадавароты, інакш кажучы, спорная вада.

Нельга выключыць і паходжанне назвы з фіна-ўгорскіх моў, дзе *"сора"* мае сэнсавыя значэнні "рэчышча ракі", "сутокі рэк", "невялікая рэчка".

Мясцовыя ж жыхары тлумачаць паходжанне наймення Споры ад жыццёвай гісторыі, якая нібыта адбылася калісьці з уласнікам гэтых мясцін. Было тое даўно, пры прыгонным праве. Землі, дзе цяпер знаходзіцца вёска, належалі аднаму пану, які жыў у Варшаве. Аднойчы гэты пан прайграў у карты зямлю, дзе знаходзілася вёска, а разам і суседнюю вёску, дзе была яго сядзіба, шляхціцу Дмухоўскаму. Вёскі былі прайграны, ці інакш - "праспораны". Таму і назваў іх пан Дмухоўскі "Споры": вёску большую – Споры Вялікія, вёску меншую - Споры Малыя або Спорқі.

Каля Малых Спораў ляжыць і возера Спорқі, якое на карце XIX стагоддзя падпісана як *"Осцюцево"*, у дакуменце 1463 года – як *"Osciczewo"*, а мясцовыя жыхары называюць **Асцюццева**. Неўсталяванасць і незразумеласць назвы сведчыць пра яе неславянскае паходжанне. Верагодна, аснова прыйшла з фіна-ўгорскіх моў: *ас* – на мове ханты і мансі "рэчка", *ту* – возера (комі, нянец.,удм.), *нева* – "балота" (фін.). У выніку маем складаную канструкцыю "Ас-ту-нева" – "забалочанае возера, якое падобна на раку".

Аднак, варта звярнуць увагу на тое, што першапачатковая назва з канчаткам "-ева" звычайна характарызуе прыналежнасць аб'екта да чаго-небудзь ці каго-небудзь. І тут дарэчы будзе ўзгадаць вядомы шляхецкі род Осцікаў, які

валодаў вялікімі зямельнымі надзеламі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Яго прадстаўнікі мелі цесныя сваяцкія сувязі з князямі Свірскімі, якія ў сярэднявеччы валодалі Спорамі. Вядома, што сястра Андрэя Петкавіча Свірскага Аляксандра была замужам за ваяводам троцкім і маршалкам дворным Рыгорам Станкавічам Осцікам. То можа ад гэтага прозвішча і ўтварылася назва возера?



*Аўтар з вучнямі падчас вандроўкі па Спорскім краі*

Найменні іншых вадаёмаў маюць паходжанне або славянскае, або фіна-ўгорскае. Так назвы **"Світа"** і **"Світка"** даследчыкі звязваюць з ханты-мансійскай асновай *сав, сап*, якая азначае "ручай, які выцякае з возера ці балота", фінскія ж канчаткі *та, тав, ты* і падобныя маюць значэнне "возера". Такім чынам, у назве "Світа" першая частка азначае цячэнне, другая – возера. У выніку атрымліваем зразумелае тлумачэнне – "праточнае возера".

Паходжанне назваў іншых азёр можна растлумачыць наступным чынам. **Варв*е*рава (Вальверава, Боверово) –** возера ў басейне р. Мядзелка, за 9 км на поўдзень ад г. Паставы. На карце XIX стагоддзя падпісана як "Боверово".

Дакладна вызначыць паходжанне назвы складана. Па форме яна адпавядае тапонімам прыналежнасці, аднак корань слова відавочна неславянскі. Магчыма, назва паходзіць з фіна-ўгорскіх моў, дзе фінскае *vaara* азначае «лясны ўзгорак», а *ер* (мар.) – "возера" з фінскага jarv, jarvi.

**Глыбóчыца (Малая Чэцверць, Верзеева) –** возера ў басейне р. Мядзелка, за 9 км на поўдзень ад Паставаў. Назва адлюстроўвае асаблівасць вадаёма – яго глыбіню. На карце XIX стагоддзя яно падпісана Верзеева. Магчыма, у аснове гэтай назвы ляжыць фінскае vesi – "вада".

**Чэ́цверць** – возера ў басейне р. Мядзелка, за 10 км на поўдзень ад г. Паставы, за 1 км на ўсход ад в. Падаляны. Назва паходзіць з фіна-ўгорскіх моў: *чэт, шэт* на мове хантаў і мансі азначае "вада", *ведь* на мове мардвы – таксама "вада".

Вёскі Спорскага краю маюць пераважна славянскае паходжанне. Так **Шы́ркі** ўтварыліся ад прозвішча *Шырко*, якое з'яўляецца формай прыметніка "*шырокі*". На Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы *Шырко, Шырэй, Шырокі, Шырчанка.* Назва вёскі **Яцавічы** таксама патранімічная: яна паходзіць ад прозвішча *Яцавіч (Яцэвіч)*, якое ўтварылася ад польскага імя *Яцэк (Jacek)*. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Яцэвіч, Яцкевіч, Яцэнка, Яцына.*

Назва **Ананічы** ўтварылася ад прозвішча *Ананіч*, якое ўзнікла да старажытнаяўрэйскага імя *Ананій*, што азначае "адораны міласцю Бога". Прозвішчы *Ананіч, Ананьеў* і цяпер сустракаюцца ў нашым краі. Назва **Салаўі́** пайшла ад прозвішча *Салавей*, якое ўтворана ад адпаведнай мянушкі. Так называлі чалавека, які меў прыгожы, чысты, пераважна высокі голас. На Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы *Салавей, Салаўёў, Саловаў.*

# ПРЫРОДА СПОРСКАГА КРАЮ

Прырода ваколіц вёскі Вялікія Споры вызначаецца ўнікальным спалучэннем высокіх узгоркаў і глыбокіх маляўнічых азёр, якія перамяжоўваюцца з невялікімі ўчасткамі peралескаў, з плямамі лугоў і апрацаваных палеткаў.

**Будова зямных нетраў.**

Як і ўся Пастаўшчына, Спорскі край ляжыць на Усходне-Еўрапейскай платформе – трывалым участку зямной кары, і таму тут не назіраецца праяваў, характэрных для актыўных зон: няма вулканаў, гейзераў, землетрасенняў. Але ў далёкія часы ўсё было інакш. У архейскую і пратэразойскую эры на месцы сучасных Спораў уздымаліся высокія горы, вывяргаліся вулканы, паверхня зрушвалася землетрасеннямі. З цягам часу геалагічныя працэсы паціхалі, рэльеф згладжваўся, а сама тэрыторыя паступова апускалася на дно марское. Найбольш глыбока пад вадой яна знаходзілася ў дэвонскім перыядзе палеазойскай эры, бо менавіта тады назапасіліся магутныя адклады марскіх асадкавых парод. Пазней акіян адступіў, суша паднялася і з таго часу (мезазойская і кайназойская эры) на тэрыторыі панавалі кантынентальныя ўмовы.

Платформа можа развівацца як шчыт, калі цвёрдыя крышталічныя пароды выходзяць на паверхню, і як пліта, калі зверху трывалыя пароды падмурка перакрываюцца асадкававай тоўшчай. Гэта тэрыторыя размешчана на Рускай пліце і таму мае двух’ярусную будову: знізу ляжыць падмурак з крышталічных парод старажытных часоў (архейскай і пратэразойскай эр), а зверху знаходзяцца розныя маладзейшыя пароды.

Тэрыторыя ў ваколіцах вёскі В. Споры знаходзіцца на мяжы двух тэктанічных структур – Вілейскага пахаванага выступу Беларускай антэклізы (падняцце падмурку) і Балтыйскай сінеклізы (прагін падмурку) і ўваходзіць у Заходне-Беларускую складкавую сістэму, якая ўяўляе сістэму

блокаў і лусак парод падмурка, насунутых адзін на другі. Складена яна ў асноўным гнейсамі, сланцамі, жалезістымі кварцытамі і іншымі метамарфічнымі пародамі. У закладзенай каля Паставаў геалагічнай свідравіне глыбіня залягання крышталічных парод аказалася 572 метры.

Падмурак не знаходзіцца ў стане абсалютнага спакою: асобныя яго зоны апускаюцца, другія – падымаюцца. Паводле даследаванняў геолага Э. Ляўкова, для Заходне-Беларускай складкавай зоны неатэктанічныя рухі мелі амплітуду да 60 метраў. Паводле звестак навукоўцаў, зараз паверхня падымаецца з хуткасцю да 2,5 мм/год. Не трэба думаць, што праз мільён гадоў у тутэйшых мясцінах выраступь горы або ўтворацца глыбокія моры. Хутчэй за ўсё тэрыторыя застанецца раўнінай, бо для платформ характэрны вагальныя рухі: узняцце праз пэўны час зменіцца апусканнем.

Да параўнальна нядаўняга часу лічылася, што Беларусі не ўласцівы землетрасенні, аднак па сучаснай схеме сейсмічнага раянавання амаль уся наша краіна аднесена да зоны магчымых шасцібальных, а ў раёнах зон глыбінных разломаў, і сямібальных землетрасенняў. Яны могуць узнікнуць з прычыны зрушэння блокаў зямной кары на комплексах разломаў, а таксама як водгулле землетрасенняў на сумежных тэрыторыях.

Самым моцным з вядомых было землетрасенне 17 снежня 1909 года, пра якое паведамлялі тагачасныя газеты, у тым ліку і "Наша Ніва". Па ацэнцы спецыялістаў яго інтэнсіўнасць была не менш сямі балаў. Каля 3–5 балаў мела землетрасенне красавіка 1977 года, якое для нашай тэрыторыі сталася водгуллем зрушэння зямной кары ў Карпатах. А ў 2004 годзе па Пастаўшчыне прайшла хваля землятрасення, эпіцэнтр якога знаходзіўся ў Калінінградскай вобласці. Сіла штуршкоў была 3-4 балы. У кватэрах звінеў посуд, адчыняліся дзверы шафаў, хісталіся фіранкі.

На платформавым падмурку ляжаць, пераважна гарызантальнымі слаямі, асадкавыя адклады. У адрозненні ад іншых рэгіёнаў краіны геалагічны разрэз тутэйшай

тэрыторыі даволі просты: на падмурку, які ўтвораны такімі пародамі, як гнейсы, амфібаліты, сланцы, граніты, дыярыты, габра і іншыя, знаходзяцца рыфейскія і вендскія адклады верхняга пратэразоя, у якіх сустракаюцца пясчанікі, алеўраліты, гліны, базальты і шэраг іншых парод; вышэй ляжаць адклады кембрыя, ардовіка і сярэдняга аддзелу дэвонскай сістэмы палеазоя, у якіх знаходзяцца гліны, пяскі, мергелі, даламіты, гіпс. Зверху ўвесь гэты "торт" перакрыты адкладамі чацвярцічнай сістэмы, у якіх выдзяляюцца пяскі, супесі, суглінкі, гліны, торф.

**Дойлідства паазёрскага ледавіка.**

Рэльеф Спорскага краю ўтвараўся пад уздзеяннем сукупнасці ўнутраных і знешніх фактараў. На сучаснае аблічча паверхні зрабілі ўплыў няроўнасці крышталічнага падмурка, адклады розных эпох, неатэктоніка, вада, вецер, ваганні тэмператур, але галоўныя свае рысы рэльеф набыў у асноўным пасля апошняга, паазёрскага ледавіка. Рух вялікай лядовай лопасці ўтварыў Мядзельскую ледавіковую лагчыну. Яна працягнулася паласой 10-15 кіламетраў з поўначы на поўдзень па даліне ракі Мядзелка і яе прытокаў – рэк Лучайка і Спарыца. Абсалютныя вышыні гэтага раёна вагаюцца ад 170 метраў на яе бартах да 130 метраў на ўрэзе ракі. Лагчына складаецца з чатырох амаль паралельна выцягнутых паніжэнняў, якія прасочваюцца па далінах рэк і катлавінах азёр. Першая лагчына, Спорская, вызначаецца па лініі воз. Чэцверць – воз. Світа – воз. Світка – воз. Асцюццева – воз. Споры – р. Спарыца – воз. Загачча – воз. Задзеўскае – воз. Думбля. Другая лагчына, Даўжанская, прасочваецца ў накірунку воз. Варанец – воз. Доўжа – воз. Глодава – рака Глодаўка. Трэцяя, Мядзельская лагчына, поўнасцю супадае з далінай р.Мядзелка, а чацвёртая, Лучайская, - з далінай р. Лучайка. Лагчыны ўтварыліся ў выніку перапаглыблення далін паазёрскім ледавіком і пазнейшым іх размывам. Рэльеф даволі складаны, асабліва ў ваколіцах азёр Чэцверць і Світа, вёсак Яцавічы, Падаляне, Салаўі, Шыркі.



*Узгорысты рэльеф Спорскага краю*

Даволі вялікую частку гэтай мясцовасці (14,5 км$^2$) займае ўнікальны рэспубліканскі ландшафтны геамарфалагічны заказнік прыроды “Спорыцкая ледавіковая лагчына”. Гэты прыродны аб’ект утварыўся 20–17 тысяч гадоў таму ў выніку разворвання ледавіком горных парод, па якіх ён рухаўся. Лагчына мае шырыню 1–1,7 кіламетра і працягваецца больш як на сем кіламетраў. У параўнанні з навакольнымі ландшафтамі яна апушчана на 25 – 30 метраў і аддзяляецца ад іх абрывістымі схіламі.

Паколькі цела ледавіка было неаднародным і мела шматлікія трэшчыны і пустоты, у якіх назапашваліся абломкавыя пароды, пасля яго таяння ўтвораныя суглінкі і супесі аселі на паверхню, сфарміраваўшы неверагодна разнастайны і маляўнічы рэльеф. Найбольш глыбокія часткі лагчыны запоўнілі воды, утварыўшы маляўнічую групу азёр: Светлае, Чэцверць, Світа, Світка, Асцюццева, Споры і некалькі невялікіх вадаёмаў. У самай паніжанай частцы цячэ рака Спарыца, якая злучае ўсе азёры і нясе ваду на поўнач у раку Мядзелку.

Асаблівую непаўторнасць ландшафту надаюць разнастайныя ўзгоркі, што ўзвышаюцца на дне гэтай лагчыны і па яе схілах. Іх памеры ад 50 да 200 метраў, а адносная вышыня – да 35 метраў. Абсалютныя адзнакі паверхні вагаюцца ў межах 137–199 метраў. Самымі высокія ўзгоркі: гара Гарадзішча – 180 м, гара Гаёк – 165,4 м, гара Спорkі на паўднёвым беразе возера Споры – 160 м. Гэтыя ўзвышэнні маюць купала- і ўвалістападобную форму з даволі абрывістымі схіламі да 25 градусаў. Складзены яны амаль поўнасцю з марэнных супесяў і суглінкаў. Дно лагчын і берагі азёр забалочаны, узгоркі пакрытыя лесам або занятыя лугамі.


Гара Гарадзішча


Гара Гаёк

Па меркаванні вучоных, Спорыцкая ледавіковая лагчына з'яўляецца эталоннай сярод падобных аб'ектаў Беларусі. Добрая захаванасць ландшафтаў і адносная экалагічная чысціня ваколіц стварае выдатныя магчымасці для арганізацыі зон адпачынку і развіцця турызма.

**НАЗВА РЭСПУБЛІКАНСКІ ЛАНДШАФТНЫ ГЕАМАРФАЛАГІЧНЫ ЗАКАЗНІК ПРЫРОДЫ СПОРЫЦКАЯ ЛАГЧЫНА** (SporuckL)




*Схема геамарфалагічнага заказніка «Спорыцкая лагчына»*

**Клімат.**

Клімат Спорскага краю не мае вялікіх адрозненняў ад клімата астатняй Пастаўшчыны. На яго фарміраванне аказваюць вялікі ўплыў такія фактары, як знаходжанне ва ўмеранных шыротах, набліжанасць да Атлантычнага акіяна, пераважанне вятроў заходняга накірунку, узвышана-раўнінны рэльеф, паветраныя масы, цыклоны і антыцыклоны.

Клімат тэрыторыі ўмерана-кантынентальны. Яго вызначальным фактарам з'яўляецца сонечная радыяцыя, якая залежыць ад вышыні сонца над гарызонтам, працягласці дня і сонечнага ззяння. Розніца ў вышыні стаяння сонца летам і зімой у полудзень каля 47°, а ў працягласці дня – больш 10 гадзін.

Зімой над тэрыторыяй у асноўным дзьмуць вятры паўднёва-заходняга накірунку, а летам - паўночна-заходнія і заходнія. Панаванне паветраных мас з Атлантыкі робіць вялікі ўплыў на характар клімату. Зімой яны прыносяць павышэнне тэмпературы паветра, павелічэнне адноснай вільготнасці і выпадзенне ападкаў. Летам яны паніжаюць тэмпературу. Сярэдняя хуткасць ветру 3-4 м/с, зрэдку, асабліва зімой, бываюць моцныя вятры да 15-18 м/с.

Перыядычна над мясцовасцю праходзяць арктычныя і трапічныя паветраныя масы, якія прыносяць адпаведна паніжэнне або павышэнне тэмпературы паветра.

Чаргаванне розных паветраных мас, цыклонаў і антыцыклонаў робіць надвор'е вельмі няўстойлівым, асабліва вясной і восенню.

Сярэднегадавая тэмпература складае каля +5°С, самым цёплым месяцам з'яўляецца ліпень (каля +17°), а самым халодным – студзень (каля -7°). Колькасць дзён з тэмпературай ніжэй 0° складае 131 дзень, а з тэмпературай вышэй 0°С – 234 дні.

Набліжанасць да Атлантычнага акіяна, актыўная цыкланічная дзейнасць, значная вільготнасць паветра і воблачнасць спрыяюць выпадзенню значнай колькасці

атмасферных ападкаў – каля 650 міліметраў. Максімум іх прыпадае на ліпень-жнівень, мінімум – на студзень-люты, хоць часцей дажджы і снягі ідуць восенню і зімой. На працягу года налічваецца да 190 дзён з ападкамі.

Снежнае покрыва стала з'яўляцца на палях звычайна ў пачатку снежня, хоць бываюць гады, калі снег выпадае і ў лістападзе, і ў кастрычніку, і нават у верасні. Ляжыць снежнае покрыва каля 100-110 дзён і знікае звычайна ў канцы сакавіка. Таўшчыня снегу перавышае 30 см, але апошнім часам бываюць і амаль бясснежныя зімы.

**Рэкі і азёры.**

Галоўнай воднай артэрыяй Спорскага краю з'яўляецца рака Спарыца. Паводле звестак навукоўцаў, якія лічаць яе пачаткам возера Світка, даўжыня рэчышча складае 11 кіламетраў, а плошча вадазбору – 109 км$^2$. Фактычна ж рака пачынаецца недалёка ад Вярэнек, працякае праз азёры Чэцверць, Глыбочыца, Вальверава, Світа, Світка, Споры, Задзеўскае, Думбля і ўпадае ў Мядзелку каля вёскі Хацілы. Такім чынам, калі ўлічваць вярхоўе ракі, то яе даўжыня будзе каля 22 кіламетраў.

Вельмі цікавымі воднымі прыроднымі аб'ектамі з'яўляюцца некаторыя ручаі, асабліва Спорскі і Яцавіцкі (рака Плаксуўка). За пасляледавіковы час яны выпрацавалі глыбокія лагчыны, якія пры набліжэнні да азёр набываюць рысы сапраўдных каньёнаў. У 2005 годзе навуковае краязнаўчае таварыства школьнікаў "Ювента" (кіраўнік І. Пракаповіч), якое дзейнічала ў СШ №1 г. Паставы, правяло комплексную экспе-



*Рака Плаксуўка*

дыцыю па вывучэнні Спорскага ручая, прайшоўшы па яго рэчышчы ад вусця да вытоку. Вось некаторыя вынікі тых даследаванняў.

Вадаток мае даўжыню 3,8 кіламетры пры шырыні ўсяго да 1 метра і глыбіні 30-50 сантыметраў. Аднак гэты невялікі ручай сваёй нястомнай дзейнасцю ўрэзаўся ў горныя пароды на глыбіню да 17 метраў, выпрацаваўшы даліну шырынёй да 20-30 метраў са стромкімі схіламі да 70-75%. З прычыны нізкага размяшчэння базіса эрозіі яго падзенне складае 65 метраў, а ўхіл – 17 метраў на кіламетр даўжыні. Па даліне сустракаецца шмат вымытых водным патокам камянёў, рэчышча моцна захламлена галлём, камлямі і карэннем дрэў. Падобныя на Спорскі ручай і іншыя мясцовыя рачулкі.

Жыўленне рэчак і ручаёў адбываецца за кошт ападкаў, таяння снягоў і лёду, падземных водаў. Найбольшы ўзровень вады назіраецца вясной, звычайна ў красавіку ў часы паводкі. Межань бывае зімой, калі рэкі закрытыя лёдам і летам у перыяды засух. У часе разліваў рэк навадненняў не бывае – рэкі закрываюць вадой толькі нізкія часткі паплавоў.

Першыя ледзяныя ўтварэнні (шуга, сала, закраіны) адзначаюцца звычайна ў канцы лістапада – пачатку снежня. Трывалы лёд усталёўваецца на рэках ў пачатку студзеня і ляжыць 90-130 дзён. Найбольшай таўшчыні ён дасягае ў другой палове лютага – пачатку сакавіка, а сярэднія адзнакі вагаюцца ў межах 25-60 см. У асобныя суровыя зімы некаторыя ручаі вымярзаюць да дна. Апошнім часам з прычыны цёплых зім рэкі поўнасцю не замярзаюць. Сярэднемесячная тэмпература вады ў Спарыцы ў ліпені мае адзнакі 19-21°С, у ручаях, якія жывяцца крыніцамі, яна значна ніжэйшая.

У ваколіцах Вялікіх Спор многа азёр, пераважна ледавіковага паходжання, якія ў большасці маюць няправільную складаную форму катлавін з паўастравамі, астравамі, плёсамі і залівамі. Тут размешчаны такія вадаёмы як Споры, Асцюццева (Спорткі), Svіта, Світка, Чэцверць, Вальверава, Глыбочыца, Задзеўскае, Светлае, Быкова Вока і

шэраг невялікіх безыменных азярцоў. Іх катлавіны сфарміраваліся каля 10 тыс. гадоў таму ў час паазёрскага зледзянення ў паглыбленнях паміж марэннымі ўзгоркамі. Некаторыя азёры глыбокія: Задзеўскае – 21,6 м, Світа – 31 м, Споры – 20,8 м.



Возера Споры.

*Возера Споры*

*СПОРЫ, возера ў Пастаўскім р-не. Пл. 0,7 км2. Найбольшая глыбіня 20,8 м. Даўжыня 1,45 км. Найбольшая шырыня 0,84 км. Даўжыня берагавой лініі 4,89 км. Аб?ём вады 3,38 млн. м3. Пл. вадазбору 48 км2. У бас. р. Мядзелка, за 5 км на ПдЗ ад г. Паставы, каля в. Шыркі. Схілы катлавіны вышынёй 10—20 м, на Пн і З парасплі лесам, на ПдУ і У разараныя. Заходняя частка катлавіны глыбакаводная, усходняя — мелкаводная з плоскім дном. Паміж імі востраў пл. 0,015 км2. Ёсць 3 вялікія залівы. Берагі пад хмызняком, месцамі зліваюцца са схіламі. Участкамі забалочаная пойма шырынёй 5—8 м, парослая хмызняком. Мелкаводдзе пясчанае, глыбакаводная зона выслана ілам. Зарастае да глыбіні 4,5—5,2 м. Праз возера цячэ р. Спорыца (злучае яго з азёрамі Світка і Задзеўскае), упадае ручай з воз. Споркі.*

*Крыніца: Блакітная кніга Беларусі. - Мн.:БелЭн, 1994.*

Адносная ізаляванасць азёр, вялікая глыбіня і нязначная гаспадарчая дзейнасць на ўзбярэжжах спрыяе захаванню даволі высокай ступені чысціні і празрыстасці вады. Так у возеры Споры яна праглядаецца на глыбіню да 4 метраў, у Світа – 3,2 метра.



*Возера Світа*

*СВІТА, возера ў Пастаўскім р-не. Пл. 0,83 км2. Найбольшая глыбіня 31 м. Даўжыня 1,5 км. Найбольшая шырыня 1,06 км. Даўжыня берагавой лініі 5,44 км. Аб?ём вады 7,54 млн. м3. Пл. вадазбору 22 км2. У бас. р. Мядзелка, за 7 км на Пд ад г. Паставы, каля в. Сіманькі. Схілы катлавіны вышынёй 20—35 м, параслі лесам і хмызняком, у верхняй частцы часткова разараныя. Берагі пад хмызняком. Пойма шырынёй 10—15 м, на 3 да 200 м. 3 астравы агульнай пл. 0,016 км2. Найбольшыя глыбіні ў паўднёвай частцы возера. Дно ў прыбярэжнай частцы пясчанае, глыбей гліністае. Зарастае слаба, шырыня паласы прыбярэжнай расліннасці да 5 м. Упадае ручай з воз. Чэцверць, выцякае ручай у воз. Світка.*

*Крыніца: Блакітная кніга Беларусі. - Мн.:БелЭн, 1994.*

На некаторых азёрах асаблівую прыгажосць іх знешняму выгляду надаюць астравы. Тры маляўнічыя выспы ёсць на возеры Світа, па адной – на Задзеўскім і Спорах.



*Возера Асцюццева (Малыя Споры, Спорκі)*

*АСЦЮЦЦЕВА (Спорκі, Малыя Споры). Пл. 0,15 км$^2$. Найбольшая глыбіня 8,1 м. Даўжыня 0,6 км. Найбольшая шырыня 0,3 км. Аб'ём вады 0, 26 млн. м$^3$. Пл. вадазбору 2,6 км$^2$. У бас. р. Мядзелка, за 7 км на ПдЗ ад г. Паставы. Схілы катлавіны нізкія, на Пд і ПдУ вышынёй 12-15 м, парасплі лесам. Берагі нізкія, забалочаныя, на Пд і ПдУ вышынёй да 0,3 м. Найбольшая глыбіня каля заходняга берага. На Пн выцякае ручай у воз. Споры.*

*Крыніца: Блакітная кніга Беларусі. - Мн.:БелЭн, 1994.*

Жыўленне азёр адбываецца за кошт ападкаў, паверхневага сцёку з рэкамі і ручаямі, а таксама падземнымі водамі. У глыбокіх азёрах увесь аб'ём вады пераменьваецца за 5-10 гадоў, у мелкаводных – за 1-2 гады. Найбольшы ўзровень вады назіраецца ў канцы сакавіка – пачатку красавіка, вышыня пад'ёма – да 1 метра.

Важную ролю ў жыцці азёр адыгрывае тэмпературны рэжым. Назіраецца веснавое і восеньскае перамешванне

воднай масы і летняе раздзяленне вады глыбокіх азёр на 3 слаі. На паверхні вадаёмаў летам тэмпература ў розных частках вадаёмаў не аднолькавая: яна на 1-1,5° вышэй каля нагоннага берага, чым каля згоннага, а каля расліннасці на 1,5-2° большая, чым на адкрытай прасторы. Найбольш халоднай вада бывае перад узыходам сонца, а самая цёплая ў 14-16 гадзін.

Лядовае покрыва трымаецца з канца лістапада – пачатку снежня да канца красавіка – пачатку мая. Таўшчыня лёду дасягае 50-60 сантыметраў. Зімой тэмпература вады паверхневага слою каля 0°, а калядоннага – звычайна 2,5-4°С.

Амаль усе азёры каля берагоў маюць некалькі палос расліннасці. Найбольш яўна прасочваюцца палосы надводных (тросць, сіта, чарот), з плаваючымі лістамі (кубышкі, лілеі) і падводных (рдэсты, эладэі, рагалістнікі, цэларэзы) раслін. Аснову мікрафлоры складае фітапланктон. Пераважаюць дыятомавыя водарасці.

У азёрах распаўсюджана больш за 20 відаў рыб. Найчасцей сустракаюцца плотка, акунь, лешч, лін, карась, гусцёрка, шчупак і іншыя.

У ваколіцах Спор сустракаецца даволі шмат крыніц – месцаў выхаду на паверхню падземных вод. Знаходзяцца яны там, дзе рэкі і ручаі перапілоўваюць горныя пароды, ускрываючы ваданосныя слаі і жылы, а таксама на ўзбярэжжах азёр.

Крыніцы па характару выхаду вады на паверхню падзяляюцца на некалькі тыпаў. Гелакрэны прабіваюцца праз грунты звычайна ў некалькіх месцах, утвараючы забалочаную мясцовасць (гр. helos – балота); лімнакрэны ўтвараюць у месцы выхаду невялічкі вадаёмчык (гр. limne – возера); рэакрэны выцякаюць з-пад зямлі ручаінай (гр. rheos – цячэнне, паток). Крыніцы ў гэтай мясцовасці яшчэ пакуль што слаба вывучаны. З тых, якія вядомы, найбольшую цікавасць выклікае вялікі гелакрэн на паўднёвым беразе возера Асцюццева, дзе на вяршыні невялікага ўзгорка ў

некалькіх месцах з-пад зямлі прабіваецца вада.

Другая адметная крыніца знаходзіцца на адлегласці 300 метраў на паўночны ўсход ад вёскі Споры ў глыбокай лагчыне з левага боку ад дарогі на Шыркі. На схіле гары ў 2 месцах з-пад зямлі невялікімі фантанчыкамі б'е вада. Ручай сцякае ў лагчыну і па ёй - у возера Асцюццева. З прычыны выпасу буйной рагатай жывёлы крыніца забруджана, знаходзіцца ў стане дэградацыі. Над крыніцай дрэвы – лаза і бяроза, якія зрасліся між сабой.

Мясцовыя жыхары ўзгадваюць пра крыніцу, якая раней была перад уездам у вёску В. Споры. Паводле ўспамінаў, яна мела такія памеры, што ў спякотны дзень у ёй можна было пакупацца, праўда вада там была вельмі сцюдзёная. Мясцовыя жыхары ў гэтай крыніцы ставілі банкі з малаком, каб не кісла. У час упарадкавання дарогі былі парушаны пласты горных парод і крыніца прапала. Засталося сухое рэчышча, па якім раней з яе цякла вада ў раку Плаксуўка.

**Расліннасць і жывёльны свет.**

Паколькі Спорскі край, які і ўвесь Пастаўскі раён, знаходзіцца ў зоне змешаных лясоў, то тут пераважаюць дзярнова-падзолістыя глебы. Яны сфарміраваліся на марэнных адкладах, таму, звычайна, з'яўляюцца гліністымі або суглінкавымі і самымі ўрадлівымі, бо добра трымаюць вільгаць, арганічныя і мінеральныя рэчывы. Адмоўныя якасці: лёгка разбураюцца ліўневымі дажджамі і расталымі водамі вясной, маюць павышаную кіслотнасць і патрабуюць вапнавання, вясной у іх карацейшы, чым у супясчаных глебаў,



*Дрэва каля воз. Світа*

перыяд для апрацоўкі і сяўбы. Значныя плошчы, асабліва па далінах рэк і ўзбярэжжах азёр, займаюць тарфяна-балотныя і поймавыя глебы.

У ваколіцах Вялікіх Спор няма вялікіх лясных масіваў, пераважаюць пералескі, якія падзелены між сабой участкамі раллі або сенажаці. Гэтыя бязлесыя плямы знаходзяцца звычайна на месцы былых хутароў і пастунова зарастаюць хмызняком. На поўдзень і захад ад вёскі захаваліся невялікія маляўнічыя змешаныя ляскі, у якіх сустракаюцца высокія і магутныя елкі, бярозы, сосны. У падлеску растуць такія пароды дрэў,  як рабіна, ясень, клён, вольха, дуб, вяз, ядловец, ліпа, таполя, вярба, чаромха, дзікія яблыні ды ігрушы.

Вырубкі і былыя палеткі зарастаюць у асноўным малінай, ажынай, шыпшынай, арэшнікам, крушынай, калінай, іргой і іншым кустоўем. З кусцікаў і паўкусцікаў зрэдку сустракаюцца талакнянка, багун, верас, багноўка, брусніцы, чарніцы, буякі, журавіны, паслён, чабор, лінея, бурачок. Паўсюдна растуць дзераза, хвашчы, папараці, імхі і лішайнікі.

У тутэйшай мясцовасці распаўсюджаны розныя тыпы лугоў. Сухадольныя  размешчаны ў асноўным на павышаных элементах рэльефу. Там травастоі нізкарослыя і зрэджаныя, у якіх пераважаюць булаваносец сіваваты, аўсяніца авечая, мятліца тонкая, галадок шматгадовы, ястрабок валасісты, гладун гладкі, шчаўе малое, расходнік едкі і іншыя.

Нізінныя лугі размешчаны ў глыбокіх паніжэннях водападзелаў і надпоймавых тэрас. Травастоі злакавыя (вострыца дзірваністая, мятліца сабачая і белая, метлюжкі балотны і звычайны, пажарніца шараватая), асаковыя са значнай прымессю вільгацелюбнага разнатраўя.

Амаль усе глыбокія паніжэнні паміж узгоркамі забалочаны. Вярховыя балоты звычайна невялікія па плошчы, абнесены маларослай хвояй, пакрыты суцэльным дыванам сфагнавых імхоў, у кусцікавым ярусе сустракаюцца багун, касандра, верас, буякі, андрамеда, журавіны; у травяністым – багноўка, падвей похвенны, расянка круглалістая, чаротнік, імхі і лішайнікі.

Нізінныя балоты займаюць значна большыя плошчы і сустракаюцца амаль каля ўсіх азёр і рэк. З дрэў на іх растуць хвоя, бяроза, вольха; з кустоў – розныя віды вербаў, нізкая бяроза; з травяністых раслін – вятроўнік, бабок, шабельнік, хвошч, папараць, скрыпень, пажарніца, трыснёг, мятліца (белая), мурожніца чырвоная, метлюжок лугавы, асока, імхі.

Разнастайнасць прыродных ландшафтаў і раслінных асацыяцый стварае выдатныя ўмовы для развіцця жывёльнага свету. Тут сустракаюцца мышападобныя грызуны, казулі, ласі, дзікі, тхары, лясныя куніцы, барсукі, ваўкі, янотападобныя сабакі, зайцы-русакі, лісіцы, гарнастаі, ласкі, краты.

На ўзбярэжжах вадаёмаў асабліва шмат птушак: кулікі, чайкі, качкі, чаплі, бугаі, чэпікі, у хмызняках – вераб'іныя. З млекакормячых каля азёр і рэк, на балотах жывуць бабры, андатры, норкі, выдры, вадзяныя пацукі. У рэках і азёрах водзяцца шчупакі, акуні, плоткі, ляшчы, ліны, карасі, гусцёркі, пячкуры, чырванапёркі.

Некаторыя віды жывёл і птушак адносяцца да паляўніча-прамысловых. Па ліцэнзіях вядзецца паляванне на лася, дзіка, казулю, аленя, бабра і выдру. Паляўнічым дазваляецца таксама здабываць у вызначаныя тэрміны вавёрак, зайцаў, лісаў, норак, тхароў, куніц, гарнастаяў. Таму ў гэтай мясцовасці даволі часта можна сустрэць аматараў палявання і рыбалкі.

# АРХЕАЛАГІЧНАЯ СПАДЧЫНА

**Засяленне Спорскага краю.**

Як лічаць навукоўцы, першыя людзі прыйшлі на тэрыторыю Пастаўшчыны, верагодна, з поўдня ці з паўднёвага захаду (паўднёвая Беларусь і Польшча) у IX тысячагоддзі да н. э. Яны займаліся паляваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам. Магчыма, ужо тады на берагах Спорскай групы азёр з’явіліся першыя стаянкі старажытных людзей, але да сённяшніх дзён ніякіх звестак пра іх не захавалася. Пошукі лепшых месцаў вымушалі чалавека весці рухомы лад жыцця, і таму ён доўга не затрымліваўся на адным месцы. Гэтым, а таксама малалікасцю першажыхароў, можна растлумачыць адсутнасць у тутэйшай мясцовасці вядомых на цяперашні час стаянак людзей каменнага веку.

У ваколіцах Спор людзі пасяліліся на сталае жыхарства ў канцы I тысячагоддзя да нашай эры, калі сюды прыйшлі групы плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі. Сваё паселішча яны заснавалі на высокай гары, якая і сёння адметна ўзвышаецца над наваколлем і называецца Гарадзішча. Гэта адзін з цікавейшых археалагічных помнікаў Пастаўшчыны.



*Спорскае гарадзішча*

Паселішчы ранняга жалезнага веку (культура штрыхаванай керамікі) месціліся звычайна каля прыродных вадаёмаў. Прыблізна да V-IV ст. да н. э. на іх не было ніякіх абарончых збудаванняў. Пазней па краях гарадзішчаў сталі насыпаць адзін, а то і некалькі валоў, рабіць перад імі равы. Па грэбені вала ўзводзіліся драўляныя сцены. Плошча паселішчаў звычайна не перавышала 0,25 – 0,3 га. Жытламі служылі наземныя слупавыя збудаванні чатырохвугольнай формы. Яны былі доўгія, шматкамерныя, у кожным памяшканні меўся ачаг. Прыблізна ў пачатку н. э. адбылося павелічэнне плошчы асобных жылых памяшканняў, з'явіліся даволі вялікія аднакамерныя дамы, якія будаваліся асобна. Падлога ў жытлах абмазвалася глінай.

**Даследванні археалагічных помнікаў.**

У 2001 годзе Спорскае гарадзішча даследавала экспедыцыя пад кіраўніцтвам археолага Вольгі Сідаровіч. Навукоўцы вызначылі, што памеры пляцоўкі, якая выкарыстоўвалася старажытнымі людзьмі для пражывання, складала 60 метраў з поўначы на поўдзень і 74 метры з захаду на ўсход. Рэшткаў абарончых валоў і равоў знайсці не ўдалося з прычыны таго, што мясцовасць была даволі значна зменена ў час баявых дзеянняў часоў Першай сусветнай вайны. Лінія абароны германскіх войск і зараз прасочваецца па ўсходніх схілах гары ў выглядзе траншэй і жалезабетонных умацаванняў.

Для ўдакладнення стратыграфіі помніка, таўшчыні культурнага слою і характару знаходак, навукоўцамі быў закладзены шурф плошчай 20 м$^2$ памерамі 4х5 метраў. У выніку раскопак выяўлена 2242 артэфакты, у тым ліку 28 індывідуальных знаходак, 2211 фрагментаў керамікі і 3 шлакі, а таксама 750 костак жывёл (без уліку костак рыб).

Найбольшую цікавасць уяўляюць індывідуальныя знаходкі. Яны маюць рознае функцыянальнае прызначэнне і выраблены з розных матэрыялаў: 5 – з костак жывёл, 10 – з гліны, 4 – з каменя, 9 – з жалеза. Касцяныя вырабы

прадстаўлены трыма шыламі для праколвання скур, якія літоўскія даследчыкі называюць качэдыкамі, а яшчэ два – фрагментам рукаяткі і касцянога тупіка. Як вызначыла малодшы навуковы супрацоўнік інстытута гісторыі НАНБ Анжэла Разлуцкая, выраблены яны былі з касцей аленяў, мядзведзя і сабакі.

Большасць гліняных знаходак з'яўляецца фрагментамі грузілаў рыбалоўных сетак. Яны падобныя на такія ж вырабы з гарадзішчаў суседняй Мядзельшчыны (Малышкі, Гарані, Равячка і іншых).





*Знаходкі з гарадзішча В. Споры. А. Вырабы з косці: 1-3 – шылы; 4 – тупік; 5 – рукаятка*

*Б. Вырабы з гліны, жалеза: 1-3 – грузілы гліняныя; 4 – кольца жалезнае; 5 – серп жалезны; 6 – кручок рыбалоўны; 7 – шпілька жалезная з касцяным навершшам; 8 – сякера жалезная*

Жалезныя рэчы моцна пашкоджаны іржой і таму ўдалося вызначыць толькі фрагмент серпа і рыбалоўнага кручка. З каменных прылад працы былі знойдзены цёрачнікі, "клін" і тачыльныя камяні.

Найбольш цікавыя знаходкі ўдалося выявіць на адхонах траншэй  Першай сусветнай вайны. Адна з іх – кавалак

жалезнай сякеры, які датуецца часам не раней IV стагоддзя нашай эры. У Беларусі зафіксавана толькі некалькі такіх знаходак (гарадзішчы Гарані, Лабеншчына, Малышкі, Кашчэлічы).

Яшчэ адзін старажытны выраб – састаўная спражка, якая складалася з касцяной катушкі і жалезнага стрыжня. Знаходка мае даўжыню 7,9 сантыметра і выкарыстоўвалася, верагодна, для замацавання адзення.

Найбольшую частку знаходак склалі рэшткі керамічнага посуду. Усяго з раскопу пры таўшчыні культурнага слою 0,8-0,9 метра было сабрана 1705 фрагментаў сценак, 334 фрагменты венчыкаў і 172 фрагменты донцаў. Зроблены яны з гліны з дамешкам дробнай і буйной жарствы. Колер розны: ад светла-жоўтага да цёмна-карычневага, ад светла-шэрага да амаль чорнага. Таўшчыня сценак вагаецца ў асноўным ад 0,6 да 0,8 сантыметра, але сустракаюцца як танейшыя, так і таўсцейшыя (да 1,1 см) фрагменты.

Па спосабу апрацоўкі большасць знаходак адносіцца да штрыхаванай керамікі, невялікая частка – да гладкасценных. Па профілях венчыкаў выдзелены тры асноўныя формы пасудзін: баначныя, рабрыстыя і прафіліяваныя. Дыяметр іх вагаецца ад 8 да 25 сантыметраў.

Паводле высноў навукоўцаў, жыццё на гарадзішчы пачалося ў канцы першага тысячагоддзя да нашай эры, калі тут пасяліліся носьбіты культуры штрыхаванай керамікі. Пра гэта сведчаць такія знаходкі, як жалезны серп, спражка, рыбалоўныя грузілы.



*Вырабы з камня, гліны: 1-2 – цёрачнікі каменныя; 3 – гладкасценны посуд; 4 – ніжнія часткі гладкасценнага посуду*

Жыццё на гарадзішчы віравала і ў першай палове першага тысячагоддзя нашай эры, доказам чаго з'яўляецца значная колькасць рабрыстых форм керамікі, якія ўласцівыя культуры позняй штрыхаванай керамікі.

Такія ж знаходкі, як рыбалоўны кручок, шылы-качэдыкі, некаторыя фрагменты гладкасценнай керамікі навукоўцы звязваюць з сярэдзінай–трэцяй чвэрцю I тысячагоддзя нашай эры. Само ж гарадзішча Вялікія Споры мае вялікае падабенства з гарадзішчамі Зазоны, Мікольцы, Засвір і адносіцца да эпохі ранняга жалезнага веку.

**Заняткі старажытных людзей.**

Чым жа займаліся старажытныя людзі? Лічыцца, што жалезны век пачаўся на тэрыторыі Пастаўшчыны ў сярэдзіне I-га тысячагоддзя да н. э. (VII – IV ст. да н. э.). Назву гэта эпоха атрымала з прычыны таго, што чалавек навучыўся здабываць і апрацоўваць жалеза, вырабляць з яго патрэбныя яму рэчы. Метал выплаўляўся на месцы, бо мясцовая балоты былі багатыя на жалезную руду (буры жалязнак, або ліманіт). У месцах выхаду яе на паверхню, асабліва ў размывах рэк і ручаёў, кавалкі руды збіралі, сушылі, а потым разбівалі і таўклі каменнымі таўкачамі да размяльчэння. Выплаўлялі жалеза ў невялікіх гліняных печах-домніцах, якія мелі паўшарападобную форму. Праз адтуліну ў верхняй частцы печы засыпалі гарачы вугаль, а на яго, паслойна, - здробненую руду і драўняны вугаль. Пры дапамозе мяхоў у печ нагняталася паветра. Тэмпература падымалася да 900 градусаў і вышэй. Выплаўленае жалеза сцякала на дно печы, утвараючы порыстую масу – "крыцу", якая яшчэ мела дамешак шлаку. Каб пазбавіцца ад яго, крыцу дадаткова награвалі ў горне і кавалі. У выніку атрымлівалі кавалак чыстага жалеза – балванку. Насельніцтву гарадзішчаў была вядома зварка, а пазней ужывалася так званае пакетаванне – зварка вырабу з некалькіх кавалкаў жалеза рознай якасці. Жыхары гарадзішча Вялікія Споры вялі нарыхтоўку балотнай руды, верагодна, на поплаве возера Споры на ўсход ад

паселішча. Летам у гэтым месцы балотная вада пакрываецца іржавай афарбоўкай, што падказвае на знаходжанне тут злучэнняў жалеза.

З гэтага металу выраблялі сякеры, нажы, сярпы, іголкі, шылы, наканечнікі дзідаў, дроцікаў, стрэл, а таксама ўпрыгожанні: бранзалеты, шпількі, падвескі.



*Выплаўка жалеза*

Па-ранейшаму, асабліва ў пачатку эпохі, значнае распаўсюджванне мелі каменныя прылады, пераважна прасвідраваныя сякеры. Яны былі мясцовай вытворчасці, а свідраванне адтулін праводзілася на прымітыўным варштаце. Тапарышчы звычайна выраблялі з дубу. Даволі распаўсюджанымі былі і каменныя сякеры-кліны без адтулін. З іншых каменных прылад варта назваць зерняцёркі, таўкачы, тачыльныя брускі, камяні для шліфавання і кавадлы. Як і раней, шырока ўжываліся прылады з косці і рогу. Гэта быў лёгкадаступны матэрыял, і ён проста апрацоўваўся. З яго





*Каменныя сякеры*

выраблялiся шылы, праколкi, наканечнiкi стрэл, дзiдаў, ручкi нажоў. З бронзы на той час выплаўлялi толькi ўпрыгожаннi, сярод якiх галоўную ролю адыгрывалi пярсцёнкi, бранзалеты i падвескi.

Найбольш характэрным элементам тагачаснай матэрыяльнай культуры мясцовых плямёнаў была штрыхаваная керамiка, па якой i названа сама культура. Рэшткi ляпнога посуду, якiя належыць да культуры штрыхаванай керамiкi, акрамя В. Спораў знойдзены ў Пастаўскiм раёне на гарадзiшчах каля вёсак Дзяўгуны, Сарокi, Сiманькi, Навадруцк, Саранчаны, Данеўцы.

Для тагачаснай керамiкi характэрныя пласкадонныя гаршкi з вострым рабром у верхняй частцы i пасудзiны ў выглядзе звычайнага слоiка. У глiну дамешвалася жарства. Гаршкi ў большасцi былi жоўтыя, але сустракалiся чорнага цi цёмна-шэрага колераў. Арнамент наносiўся толькi на шыйку i плечукi пасудзiн i складаўся з зашчыпаў, насечак, наразных лiнiй, ямкавых уцiсканняў. Сустракаюцца глiняныя праслiцы, якiя ўжывалiся як грузiкi для верацён. Яны мелi адрозненне ў формах арнаментацыi.



*Штрыхаваная керамiка Спорскага гарадзiшча*

Паколькі посуд культуры штрыхаванай керамікі сустракаецца і далёка ад месца размяшчэння самога племя, то гэта сведчыць пра шырокія культурныя і эканамічныя сувязі насельніцтва розных рэгіёнаў.

Сярод гаспадарчых заняткаў асноўную ролю да канца 1-га тысячагоддзя да н. э. адыгрывалі жывёлагадоўля і паляванне. У гэты час на нашай тэрыторыі былі вядомыя ўсе асноўныя віды свойскай жывёлы: каровы, козы, коні, свінні. Пераважала буйная рагатая жывёла. Коні ўжо тады выкарыстоўваліся для верхавой язды. Асноўнымі аб'ектамі палявання былі дзік, лось, зубр, лісіца, бабёр.

З цягам часу ў гаспадарцы ўзрастала роля падсечнага земляробства. Па спосабу падрыхтоўкі ўчастка лесу для пасеву такая сістэма атрымала назву ляднай. На ўчастку, які выбіраўся для поля, лес высякалі і спальвалі. Верхні слой глебы станавіўся больш рыхлы, а попел угнойваў глебу. Затым сеялі збожжа і загортвалі яго сукаваткай – драўлянай бараной. Першыя гады ўраджай на новым месцы быў добры, але з цягам часу глеба губляла свае якасці, апустошвалася. Такі ўчастак пакідалі і пераходзілі на іншы, які рыхтаваўся такім жа спосабам. Сеялі пераважна ячмень, авёс, проса, бабовыя.

Для мясцовых жыхароў значную частку прадуктаў харчавання давалі рыбалоўства і збіральніцтва. Падчас раскопак гарадзішча Вялікія Споры было выяўлена 126 экзэмпляраў рыбных касцей і 12 экзэмпляраў лускі. Аналіз паказаў, што першае месца ва ўловах займалі шчупакі, памеры якіх знаходзіліся ў дыяпазоне ад 35 да 73 сантыметраў. На другім месцы былі ляшчы. Разлічаны мінімальны памер асобін склаў 25 см, максімальны – 45 см. Трэцяе месца займалі акуні. Сустракаліся і іншыя рыбы: плотка, лін, карась, язь, чырвонапёрка, сом. Навукоўцы лічаць, што рыбалоўства вялося перважна сеткамі і плеценымі пасткамі.

**Паганскае капішча.**

На вяршыні гары Гарадзішча, верагодна, знаходзілася паганскае капішча. Пра гэта сведчыць легенда, паводле якой там стаяў касцёл, які праваліўся скрозь зямлю, і зараз зрэдку чуваць, як у глыбіні б'юць званы. Як піша Э. Ляўкоў у кнізе "Маўклівыя сведкі мінуўшчыны", "яшчэ ў мінулым стагоддзі А.Багдановіч праанализаваў падобныя павер'і і прыйшоў да высновы, што ў такіх мясцінах, відаць, былі закінутыя або разбураныя язычніцкія капішчы".

Вось пра што расказвае легенда, якую давялося пачуць ад жыхаркі в. Яцавічы Улімы Радко*: Даўным-даўно гэта было. Тады яшчэ і лясы раслі гусцейшымі, і рэчкі цяклі хутчэй, і ў азёрах рыбы ставала, ды і сонца неяк свяціла часцей. А як прыгожа было наўкол! Як узбярэшся на гару, што каля Яцавіч, дык здаецца, што палову Зямлі нашай відаць: і бары нечапаныя, што цёмнай хмарай цягнуцца далёка-далёка на поўнач, і палі-агароды, што грэюцца на сонечных пагорках, і азёры, чыстыя і светлыя, што, як душы людзей добрых, глядзяць здзіўлена на свет.*

*А на вялікай гары, што каля возера Світа, на самай яе вяршыні, уздымаўся, як магутны вартаўнік, касцёл. Добра папрацавалі дойліды, каб зрабіць такую прыгажосць. Ды і месца выдатнае абралі, бо і з Паставаў, і з Манькавіч добра ён быў відаць.*

*Лічылася гэта месца святым, бо казалі, што знаходзіўся там абраз Маці Божай, які меў цудадзейную сілу: хворых лячыў, сляпым зрок вяртаў, калекам раны гаіў, розныя ўнутраныя хваробы выганяў.*

*Ды прыйшла аднойчы на нашу святую зямлю чорная бяда. Шведскія заваёўнікі пачалі забіваць і рабаваць нашых людзей, паганіць нашы святыні. Дабраліся яны і да касцёла. Уварваліся, сталі зрываць і тапнаць абразы, ламаць крыжы, нішчыць аздабленне храма. А колькі багаццяў там было!*

*А камандзір атрада як убачыў цудадзейны абраз, дык як звар'яцеў усё роўна. Падбег да яго, выхапіў меч і з крыкам: «Хай загінуць святыні гэтага народа!»- жахнуў па абразу*

*зверху ўніз. І рассек яго.*

*Не паспеў ніхто са шведаў выйсці з касцёла, бо той як стаяў, дык так і праваліўся пад зямлю. І зараз на тым месцы можна знайсці дзе-нідзе кавалак гнілога дрэва або іржавага жалеза. А ў ціхія месяцавыя ночы, калі паверхня азёраў ледзь серабрыцца, а дрэвы на гарадзішчы стаяць сумныя і задуменныя, можна пачуць як з-пад зямлі ледзь чутна ліюцца самотныя гукі аргана. Праўда, кажуць, з гадамі музыка робіцца ўсё больш жалобнай, а гукі чуваць усё радзей і цішэй…*

Паводле іншай версіі легенды, шведы загналі ў касцёл коней. Ад такой абразы храм задрыжэў, закалаціўся, зямля разышлася, і ён праваліўся ў нетры. Бывала, людзі чулі, што дзесьці глыбока ў зямлі звінелі званы, іграла музыка. А на тым месцы, дзе стаяў касцёл, і цяпер растуць прыгожыя пасаджаныя кветкі.



*Паганскае капішча*

Далейшае сацыяльна-эканамічнае і этнічнае развіццё ў IV–V ст. н. э. прывяло да значных змен у жыцці мясцовага насельніцтва. Старыя патрыярхальныя гарадзішчы, якія сталі эканамічна нявыгаднымі, былі пакінуты, а замест іх узніклі неўмацаваныя селішчы. Відаць, гэта адбылося ў выніку ўзнікнення вялікіх племянных аб’яднанняў, у межах якіх для кожнай асобнай абшчыны страцілася неабходнасць ва ўмацаваных гарадзішчах.

**Вывучэнне старадаўніх селішчаў.**

У ваколіцах В. Спор ёсць некалькі цікавых аб′ектаў, якія, верагодна, у даўнейшыя часы былі селішчамі. Найбольш адметным сярод іх з′яўляецца рэспубліканскі помнік прыроды "Лысая гара". Ён знаходзіцца на адлегласці аднаго кіламетра на поўнач ад вёскі Шыркі каля шашы Паставы – Лынтупы. Гара ўяўляе сабой адасобленае, адносна невялікае ўзвышша марэннага паходжання, якое мае ўнікальную правільную форму з пукатай вяршыняй і роўнымі павольнымі схіламі. Яе адносная вышыня 15 метраў, памеры 200 на 60 метраў. Схілы маюць нахіл да 15—18$^{0}$, вышыня над узроўнем мора – 155 м.

Каля падножжа Лысай гары, на поўдзень і ўсход ад яе пры зачыстцы прасочваецца культурны пласт (цёмна-шэры да чорнага супесак магутнасцю 0,4—0,6 м). У ім трапляюцца косці і зубы жывёл, фрагменты ляпной гладкасценнай керамікі з жарствой у цесце, у тым ліку венчыкі. Таўшчыня сценак пасудзін – 0,7—0,9 см. Плошча гэтага селішча – не менш чым 50 на 50 метраў. На самой гары культурны пласт не прасочваецца. Паселішча было выяўлена ў 2002 годзе экспедыцыяй у складзе: Э. Зайкоўскі, І. Пракаповіч, І. Заяц.



*Гара Лысая*

Гара мае і іншую назву – Чортава гара, як і мост праз р. Спарыца, які таксама называюць Чортавым. Паводле падання, на Лысай гары жыў чорт, а на мосце ён ладзіў свае "чортавы забавы". Да нядаўняга часу, пакуль мост быў драўляным, на ім нечакана правальваліся вазы, жывёла, тэхніка. У вайну ў багне патануў танк. Часцяком знікалі людзі.

Паводле іншага падання, на Лысай гары на свой шабаш у адну з цёмных восеньскіх начэй злятаецца нячыстая сіла, і тады там бліскаюць агні, чуваць нечалавечы рогат, свіст і музыка. Лысая гара мае статус рэспубліканскага ландшафтнага геамарфалагічнага заказніка.

Другое селішча было выяўлена экспедыцыяй навучэнцаў Пастаўскай раённай гімназіі пад кіраўніцтвам І. Пракаповіча ў 2013 годзе. Знаходзіцца яно на заходнім беразе возера Асцюццева (Споркі) на адным з яго палогіх схілаў. На сенажаці пры аглядзе кратавін удался сабраць значную калекцыю рэштказ керамічнага посуду.

Некаторыя знаходкі на астравах азёр Світа і Споры даюць падставы выказаць меркаванне пра тое, што невялікія паселішчы або стаянкі існавалі і там. Усё гэта сведчыць пра даўняе засяленне людзьмі ваколіцаў Спораў.

**Банцараўская культура.**

Узнікненне маёмаснай няроўнасці, з'яўленне багатых і бедных сем'яў паскорыла распад радавых адносін. Сваяцкія сувязі пачалі страчваць сваю сілу. На адкрытых паселішчах сяліліся не толькі кроўныя родзічы, але і сем'і з чужых родаў. Першабытная абшчына, заснаваная на кроўным сваяцтве, саступіла месца абшчыне суседскай.

Адбыліся змены і ў культуры. У выніку зліцця культур, якія існавалі на поўначы Беларусі, утварылася новая археалагічная культура, якая мае назву банцараўская. Цікава, што амаль усе даследаваныя селішчы таго часу знаходзіліся на месцы стаянак каменнага ці бронзавага вякоў, на нізкай першай надпоплаўнай тэрасе рэк і азёр, каля самай вады.

Для паселішчаў банцараўскай культуры характэрна

наяўнасць ляпной гладкасценнай керамікі з жарствой у гліняным цесце. Яна мела розную форму, але арнаментацыя адсутнічала.

Падчас раскопак тагачасных селішчаў знаходзяць жалезныя нажы, сярпы, цуглі і шпоры, шылы, сякеры, іголкі, наканечнікі дзідаў і стрэл. Прылады з косці і рогу сустракаюцца даволі рэдка.



*Жытло старажытных людзей*

У параўнанні з папярэднім часам гаспадарка ўзнялася на больш высокі ўзровень развіцця. Істотна ўзрасло значэнне падсечнага земляробства. Сеялі пшаніцу, проса, гарох, конскія бабы, віку, жыта. Значную ролю адыгрывала жывёлагадоўля. Пры раскопках трапляюцца косці быка, авечкі, каня, свінні. Паляванне і рыбалоўства ўжо мелі дапаможнае значэнне. У асноўным палявалі на такіх звяроў, як лось, мядзведзь, куніца, ліса і заяц. З рыбалоўных прылад трапляюцца грузілы, кручкі, восці і блешні.

У лік упрыгожанняў, якія выраблялiся ў асноўным з бронзы, уваходзілі разнастайныя падвескі, скроневыя кольцы,

бранзалеты, шыйныя грыўні, паясы з сярэбранымі спражкамі, гліняныя, бурштынавыя, шкляныя з пазалотай пацеркі, фібулы.

Асноўная маса вырабаў мясцовага насельніцтва характэрна для больш ранніх балцкіх культур, а таксама для насельніцтва Літвы і Латвіі перыяду ранняга сярэднявечча.

Жытлы мелі чатырохвугольныя формы, яны былі наземныя або паўзямлянкавыя, з адкрытымі агнішчамі ці з печамі-каменкамі ў сярэдзіне. Пабудовы былі пераважна слупавой канструкцыі, а таксама зрубныя, памерам каля 12 х 20 м. Часта побач з жытламі месціліся гаспадарчыя збудаванні, у большасці гэта былі ямы-скляпы ўсечананаканічнай ці звонападобнай формы.

У пахавальных абрадах пераважала трупаспаленне ў грунтавых ямах у курганах. Нябожчыка спальвалі разам з рэчамі. Пры даследаванні могільнікаў знаходзяць пераважна ўпрыгожанні і посуд.

У канцы VI ст. палітычнае становішча, напэўна, змянілася і стала больш трывожным, бо селішчы пачалі размяшчаць побач са старымі гарадзішчамі. Самі гарадзішчы былі ператвораны ў крэпасці-сховішчы, значна ўмацаваныя дадатковымі валамі шляхам падсыпкі краю пляцовак, абарончымі драўлянымі сценамі.

Трывожная абстаноўка таго часу, напэўна, тлумачыцца тым, што пачалося паступовае перамяшчэнне славян на тэрыторыю, што раней займалі балты і фіна-ўгры. Хутчэй за ўсё рух гэтых плямён адбываўся гвалтоўна, праз узброеныя сутычкі з мясцовымі жыхарамі. Устаноўлена, што на мяжы VII – VIII ст. большасць умацаванняў балцкага насельніцтва банцараўскай культуры загінула ў выніку пажараў.

# ГІСТОРЫЯ ВЁСКІ ВЯЛІКІЯ СПОРЫ І ЯЕ ВАКОЛІЦАЎ

**Спорскі край у сярэднявеччы.**

Першыя згадкі пра Споры сустракаюцца ў грамаце Вялікага князя Літоўскага Жыгімонта ад 20 сакавіка 1440 года, у якой ён, зацвярджаючы рэктарам касцёла ў Малым Мядзеле (Кабыльніку) Марціна Дабрзылоўскага, называе азёры Споры, Світа, Глыбокае, Вейверава (Wieiwirowo), Светлае (Switlo), Варанец, Барсукі (Барсуіх), Чэцверць. Верагодна ўжо тады існаваў двор Споры, які належаў роду князёў Свірскіх. Паводле свайго паходжання яны лічыліся адным з найдаўнейшых феадальных родаў у Вялікім Княстве, карысталіся гербам "Ліс VI, альбо Свірскі": на чырвоным полі двойчы перакрыжаваная сярэбраная страла наканечнікам уверх, над шоламам – княжая карона.



*Герб Свірскіх*

З пазнейшых дакументаў вынікае, што Споры з'яўляліся ўласнасцю нашчадкаў князя Рамана Свірскага, у якога былі сыны Пецька, Ян і Сенко. Пецька меў сем сыноў: Людвік, Міхал, Якуб, Андрэй, Марцін, Ян (Януш) і Аляксандр, і шэсць дачок: Ядвіга, Людміла, Аляксандра, Аўдоцця, Соф'я і Настасся. З мужчынскага боку толькі Марцін і Міхал мелі нашчадкаў. Яны потым падзяліліся на дзве галіны князёў Пецькавічаў (Пяткевічаў) Свірскіх. Брат Пецькі, Ян Раманавіч, нашчадкаў не пакінуў.

У дакуменце ад 22 чэрвеня 1463 года ксёндз свірскі, канонік віленскі і плябан у Варнянах Андрэй Пецкавіч (сын Пецькі Раманавіча), запісваючы фундуш на касцёл святога Андрэя ў Кабыльніку, паміж іншага згадвае двары ў Клодне (верагодна, Калодзіне), Сырмежы, Жарах, Спорах, Чэцверці, называе азёры Доўжа, Світа, Асцюццева (Osciczewo).

Праз дзевяць гадоў, 1 жніўня 1472 года, Сенко Раманавіч

разам з жонкай Багданай перадаў касцёлу ў Свіры апроч іншага "дзесяціну ад усяго збожжа і агародніны з Воўчына і Спораў…".

Князь Ян Раманавіч са Свіры разам з жонкай Ганнай, дачкой шляхціца Струмкі, запісаў ксяндзу Марціну між іншага "дзве дзесяціны жыта са Спораў і Сырмежа" на ўласны ўжытак за адпраўленне імшы за душы сваіх родзічаў, прыяцеляў і крэўных. Гэты ж Ян Раманавіч запісаў на імя жонкі двары ў Свіры, Спорах і Сырмежы. Калі ж ён памёр, то ўдава выйшла замуж за баярына Каспара Германовіча і такім чынам значная частка спадчыннай маёмасці Свірскіх перайшла да новага гаспадара. Сыны Пецькі Раманавіча Марцін і Якуб палічылі гэта несправядлівым і з 1494 года пачалі судзіцца з Каспарам. Справа зацягнулася і дайшла да вышэйшай інстанцыі. У жніўні 1503 года кароль польскі і вялікі князь літоўскі Аляксандр разам з панамі-радай разгледзеў судовую справу і, палічыўшы, што Ян Раманавіч запісаў жонцы задужа многа багацця, прыняў рашэнне пакінуць Каспару Германовічу толькі Свір, а Споры і Сырмеж вярнуць князям Свірскім.

Прадстаўнікі гэтага роду ў XV-пачатку XVI стагоддзя валодалі вялікімі зямельнымі надзеламі на тэрыторыі сучасных Пастаўскага і Мядзельскага раёнаў. Аднак пастутова магутнасць князёў Свірскіх пачала змяншацца, маёнткі драбнелі, падзяляліся, некаторыя прадаваліся ў іншыя рукі. З дакументаў вядома, што маёнткам Споры ў 1557 годзе валодаў "земянін гаспадарскі пан Фёдар Міхайлавіч Фурс". На той час яму належалі і Паставы, якія ў 1552 годзе перайшлі ва ўласнасць яго жонкі, спадчынніцы мястэчка, Марыны Багданаўны Зяновіч-Корсак.



*Пячатка Свірскіх*

Трэба меркаваць, што ваколіцы Спораў, як і ўся Пастаўшчына, моцна пацярпелі

падчас так званай “невядомай вайны”, якая ў 1654-1667 гадах знішчальнай навалай пракацілася па беларускіх землях. Маскоўскія войскі, рухаючыся па заходніх абшарах Вялікага княства Літоўскага, пакідала пасля сябе руіны і папялішчы. Па звестках гісторыка Г. Сагановіча, “у мястэчку Паставы і трох бліжэйшых вёсках у 1672 г. жыло толькі 5 сем’яў”.

Моцны ўплыў на жыхарства Пастаўшчыны зрабіла Паўночная вайна 1700-1721 гадоў паміж Расіяй і Швецыяй. Паставы апынуліся крыху ў баку ад асноўнага тэатра баявых дзеянняў, якія амаль спляжылі Гродненскую губернію, але поўнасцю пазбегнуць навалы мясцоваму люду не ўдалося. Рабаўніцтвам займаліся размешчаныя тут вайсковыя аддзелы, а ў 1709 годзе праз Пастаўшчыну прайшоў шведскі корпус пад камандаваннем генерала Адама Левенгаўпта, які імкнуўся на дапамогу арміі свайго караля Карла XII. У войску было 16 тысяч жаўнераў і 7 тысяч вазоў са зброяй і харчам. Маюцца звесткі, што шведскія атрады праходзілі праз Паставы, Споры, Камаі. У вёсцы Яцавічы распавядаюць легенду пра тое, як касцёл, што стаяў тады на мясцовым гарадзішчы, праваліўся скрозь зямлю разам са шведамі, якія ўварваліся ў яго і пасеклі мячамі святыя абразы.



*Рэшткі алеі старой сядзібы ў Вялікіх Спорах*

Разам з вайной на жыхароў абрынулася і іншая пошасць: у пачатку XVIII стагоддзя край спасцігла вялікая засуха, а з 1708 па 1711 – эпідэміі розных хвароб. Як адзначалася ва ўніверсале 1711 года, у выніку эпідэмій некаторыя гарады і мястэчкі "сталі амаль пустымі", колькасць жыхароў у населеных пунктах зменшылася на 30–35 %.

Самымі распаўсюджанымі прозвішчамі ў Яцавічах былі Кватькоўскія і Навумчыкі, пры гэтым, абсалютная большасць з іх раднёй сябе не лічыла .

Як успаміналі старажылы, даўно, у сярэднявеччы, у Спорскім краі лютавала халера. Гэта хвароба касіла ўсіх, не разбіраючыся, ці стары, ці малы, ці мужык, ці жанчына. Кожную раніцу некалькі чалавек з адмысловымі жалезнымі крукамі праходзілі па хатах і глядзелі, хто за ноч памёр. Нябожчыкаў чаплялі тымі крукамі і цягнулі да вялікай ямы, якая была раскапаны ў канцы вёскі, куды і скідвалі. А потым пасыпамі вапнай. Той эпідэміяй вымерлі амаль усе жыхары. Засталіся толькі дзве сям'і: Кватькоўскія і Навумчыкі. Гэтым і тлумачыцца, чаму яны найбольш распаўсюджаны ў вёсцы.

Па словах Віктара Іванавіча Кватькоўскага, паколькі жыхароў з аднолькавымі прозвішчамі было многа, іх вызначалі яшчэ і па родавым найменні. Так усіх іх родзічаў называлі "Якубёнкі", што павялося ад бацькавага бацькі Антона Якубавіча.

Цікавыя звесткі па ваколіцах Спораў утрымліваюцца ў працы А. Свідэрскага "Дэканат Свірскі ў 1784 годзе ў святле апісання плябанаў". У іх паведамляецца, што "Споры Вялікія – двор спадчынны Сперскіх, а менавіта: Мірскіх, Ліхадзіеўскага, Садоўскага, Маліноўскага і Ліпіньскага у застаўной пасесіі Мірскіх, Ловек: Браслаў." Вельмі верагодна, што ў гэтым матэрыяле з прычыны невыразнага прачытання рукапіснага тэксту маецца памылка ў прозвішчы: Споры былі спадчынным маёнткам князёў Свірскіх, а не Сперскіх.

Цікава, што ў Малых Спорах на той час знаходзіліся тры фальваркі. Адзін з іх належаў Ліхадзіеўскаму, прычым частка была ў застаўной пасесіі Вярыгі, другім кіраваў Францішак

Мірскі, трэцім – Цыпрыян Мірскі. У некаторых суседніх вёсках таксама былі фальваркі. Так Салаўі, фальварак і вёска належалі Садоўскаму, Шпакі – Маліноўскаму і Ліпіньскаму, Шаркаўшчына – Жолендзям. Як спадчынныя ўладанні Сперскіх (Свірскіх) называюцца вёскі Ананічы, Яцавічы, Крэўні. Усе гэтыя паселішчы адносіліся на той час да Задзеўскай парафіі. Іх кароткае апісанне пакінуў ксёндз-плябан задзеўскі, паддэкан свірскі Ваўжынец Ігнацы Мастовіч.

Некаторыя суседнія населеныя пункты належалі да пастаўскай і кабыльніцкай парафій. Шыркі і Доўжа былі фальваркамі Антонія Тызенгаўза, падскарбія надворнага ВКЛ, Паздзюткі і Хвалевічы (Фалевічы) належалі Аскерку, маршалку павета ашмянскага, кавалеру ордэна св. Станіслава, фальварак Чэцверць быў ва ўласнасці Кліманскай, падкаморнай гродзенскай, Падалянамі валодалі Гедройцы. Варта звярнуць увагу на тое, што ў Варанцы на той час знаходзіўся двор, якім валодаў гродскі рэгент ашмянскага павета Дмахоўскі. Яму ж належала і вёска Шабаны. Менавіта прадстаўнікі гэтага шляхецкага роду праз некаторы час сталі ўласнікамі Спораў. Паводле легенды, землі, дзе зараз знаходзіцца вёска, належалі аднаму пану, магчыма, Мірскаму, які жыў у Варшаве, а тут меў упраўляючага. Але аднойчы той пан прайграў у карты і зямлю, і вёскі з жыхарамі, і яны перайшлі ва ўласнасць пана Дмахоўскага. З часам гаспадар перадаў землі сваёй дачцэ Зосі.

**У Расійскай імперыі.**

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы XVIII стагоддзя Спорскі край увайшоў у склад Расійскай імперыі. Такія значныя гістарычныя падзеі, як нашэсце Напалеона і паўстанні 1830-31 і 1863 гадоў, якія пакінулі адметныя сляды на Пастаўшчыне, Спорскія ваколіцы закранулі, напэўна, слаба, бо нейкіх гістарычных дакументаў, звязаных з гэтай мясцовасцю таго часу, пакуль што не выяўлена.

У 1870 годзе маёнтак Споры знаходзіўся ў Ясеўскай воласці і належаў Дмахоўскай. У яго ўваходзілі вёскі: Яцавічы,

у якой налічвалася 30 двароў і якая лічылася цэнтрам маёнтка; Фалевічы, у якой было 25 двароў, і Ананічы з 17 дварамі. Частка Яцавіч належала да маёнтка Лесунова, якім валодаў Зантоўг. Туды ж уваходзіла і вёска Свяцішкі з 9 дварамі.




*Спорскі край на карце канца XIX стагоддзя*

У "Слоўніку геаграфічным Каралеўства Польскага і іншых краёў славянскіх", які выдадзены ў 1882 годзе, запісана: "Споры: фальварак над возерам з такой жа назвай, павет свянцянскі, у 3 акр. ральн., гміна Ясева, акруга вёскі Словікі (Slowiki), 45 вёрст ад Свянцянаў, 1 dm, 9 жыхароў католікаў, у 1865 г. уласнасць Дмахоўскіх.

Споры: фальварак шляхецкі над ракой Пласкуўка, павет

свянцянскі, у 3 акр. ральн., 45,5 вёрст ад Свянцянаў, 1 dm, 33 жыхары (25 католікаў, 8 жыдоў)".

**У Вялікай вайне.**

Спакойнае і размеранае жыццё мясцовага жыхарства было парушана Першай сусветнай вайной, якая пакінула глыбокія сляды як на зямной паверхні, так і ў людскіх лёсах. Пачалася яна 1 жніўня 1914 года, калі Германія аб'явіла вайну Расійскай імперыі. У выніку імклівага наступлення ў пачатку верасня 1915 года германскія войскі, прарваўшы фронт каля Свянцянаў, увайшлі на тэрыторыю Пастаўскага раёна. На лініі фронту атрымаўся выступ нямецкіх войск. Вялікімі намаганнямі ў канцы верасня рускай арміі ўдалося адцясніць нямецкую кавалерыю да лініі Паставы–Споры–воз. Нарач. У пачатку кастрычніка ў выніку жорсткіх кавалерыйскіх баёў рускія войскі занялі Паставы, але каля возера Задзеўскае сутыкнуліся з умацаванымі пазіцыямі германцаў. Дажджлівая восень і зімняя сцюжа прымусілі ворагаў прыпыніць актыўныя баявыя дзеянні. Фронт стабілізаваўся з выгадай для немцаў: пад іх кантролем знаходзіліся асноўныя камандныя вышыні Свянцянскіх град. Праз паўночна-ўсходнія ўскраіны Вялікіх Спор прайшла лінія абароны германскіх войск. Траншэі працягнуліся ад Дукоў уздоўж заходняга берага возера Споры праз гару Гаёк паміж азёрамі Асцюццева і Світа на Гарадзішча і далей на азёры Доўжа і Варанец. На ўзгорках былі ўладкаваны ўмацаваныя раёны з комплексамі акопаў і жалезабетонных абарончых кропак. Па лініі фронту працягнуліся шматкіламетровыя дротавыя загароды.

Пасля зімовага зацішша, 18-28 сакавіка 1916 года рускія войскі зрабілі спробу прарваць фронт у раёне возера Нарач – горад Паставы. Гэтыя баявыя дзеянні ўвайшлі ў гісторыю пад назвай Нарацкая аперацыя і вядомы як адна з самых крывавых бітваў Вялікай вайны. Адбыліся жорсткія баі паміж войскамі 21 корпусу нямецкай арміі і арміяй расійскага генерала Эверта. З 18 па 26 сакавіка 1916 года пры падтрымцы артылерыі рускія войскі праводзілі масіраваныя

наступленні на пазіцыі германскіх войск, аднак прарваць лінію абароны так і не ўдалося. На выніку наступлення паўплывала і дрэннае надвор'е: некалькі дзён вісеў туман, наст быў крохкі і салдаты глыбока правальваліся ў снег. А да 20 сакавіка дарогі раскіслі і забеспячэнне артылерыі снарадамі замарудзілася. Хоць рускія войскі мелі значную колькасную перавагу над немцамі, ліквідаваць Свянцянскі выступ ім не ўдалося.



*Германскія ўмацаванні на Гарадзішчы*

Супрацьстаянне армій прывяло да таго, што вёскі Дукі і Задзеўе былі зусім знішчаны, горад Паставы аказаўся моцна разбураным. Частку хат разабралі на ўмацаванні, частка згарэла ад страляніны. Тым жа часам разбураны і мураваны касцёл у Задзеўі. Значная частка жыхароў падалася ў бежанства. У ваколіцах Спор значных баёў не адбывалася: рускія не рызыкнулі наступаць па моцна перасечанай мясцовасці з вялікімі адкрытымі прасторамі азёр, якія скрозь кантраляваліся і прастрэльваліся немцамі.

Да сённяшняга дня добра захаваліся лініі траншэяў, якія цягнуцца двума-трыма стужкамі з поўначы на поўдзень уздоўж лініі фронту. На камандных вышынях былі пабудаваны масіўныя жалезабетонныя бліндажы – доўгатэрміновыя абарончыя кропкі (ДАКі). У асобных месцах яны ўтвараюць цэлыя ўмацаваныя раёны, дзе сканцэнтравана па некалькі такіх збудаванняў. Пры таўшчыні сцен каля 50 см, яны маюць досыць унушальныя памеры: ад 8-15 метраў даўжыні да 3-5 метраў шырыні. Некаторыя поўнасцю заглыблены ў зямлю, іншыя ўзвышаюцца над мясцовасцю.

Каб стварыць такую сістэму абарончых збудаванняў, патрэбен быў час і неабходны матэрыял. Для кайзераўскага войска Нарацка-Пастаўскі плацдарм быў вельмі важны і на

яго ўмацаванне яны не шкадавалі сродкаў. Для забеспячэння патрэб у матэрыялах, зброі, падвозе і адвозе салдат была створана сістэма чыгунак. Галоўную ролю выконвала чыгунка Вільня-Полацк і станцыя Гадуцішкі. Каля вёсак Мольдзевічы і Ярэва чыгункі веерам разыходзіліся да лініі фронту. Для забеспячэння патрэб паўднёвага сектару абароны была пабудавана так званая "Паўднёвая чыгунка", якая праходзіла амаль паралельна лініі фронту з Мольдзевіч на Малую Вольсю, Рудзі, Мацуты, Шкіралі, Рубеж, Барадзіно. Ад яе ў бок перадавой адыходзілі адгалінаванні: Дукоўская – з Рудзяў на Дукі да Літвінак; Загацкая – з Рудзяў на Дашкі і Загачча; Спорская – з Барадзіна на Споры і чыгунка Крэўна – з Барадзіна на Крэўна.




*Пазіцыі войск у час Нарацкай аперацыі*

Мала што засталося ад чыгунак таго часу, але і сёння ў лесе на паўднёвай ускраіне вёскі Вялікія Споры прасочваюцца рэшткі чыгуначнага насыпу. Яны моцна зраслі хмызняком і з цяжкасцю вызначаюцца на мясцовасці.

Чыгункі выконвалі розныя функцыі, сярод якіх не апошняя роля прыпадала на падвоз папаўнення і адвоз раненых і забітых. Ды, напэўна, не ўсіх загінуўшых удавалася вывозіць. З гэтай прычыны на лініі фронту сустракаецца даволі шмат германскіх могільнікаў. У ваколіцах Спор вядома тры месцы, дзе знаходзіліся нямецкія пахаванні таго часу. Адны могілкі былі каля шляхецкай сядзібы (пазней – школы) на высокім беразе Спорскага ручая. Зараз ад іх нічога не засталося. Таксама знішчаны і пахаванні германцаў на поўдзень ад вёскі Вялікія Споры каля былога фальварка Лясунова. Па словах мясцовых жыхароў, "пры Польшчы" парэшткі пахаваных вайскоўцаў выкопваліся і перавозіліся на могільнік у Кабыльнік (вёску Нарач). Мураваныя ж крыжы часткова былі скінуты ў рэчку, а рэшту адзін мясцовы жыхар умураваў у падмурак сваёй хаты. Да нядаўняга часу яшчэ можна было пабачыць бетонныя слупы з агароджы нямецкіх могілкаў на месцы былога фальварка Спаркі, але самі магілы былі раскапаныя, пліты разбітыя.



*Унутраны выгляд ДАК на гары Гаёк*

Бліжэйшыя часткова ацалелыя пахаванні германскіх салдат знаходзяцца на беразе возера Чэцверць і ў вёсцы Дварчаны.

Лютаўская, а потым і кастрычніцкая рэвалюцыі 1917 года ў Расіі прывялі да аслаблення пазіцый рускай арміі, чым і скарысталіся германцы. 18 лютага 1918 года яны пачалі наступленне і захапілі Паставы. Такім чынам лінія фронту каля Спораў перастала існаваць.

На працягу наступных трох гадоў палітычныя падзеі і ўлады мяняліся на Пастаўшчыне так імкліва, што жыхары Спор не паспявалі разбірацца, хто ж цяпер начальнікі. У лістападзе 1918 года ў Германіі адбылася рэвалюцыя і германскія войскі пачалі адступаць з захопленых тэрыторый. У другой палове лістапада 1918 года Паставы і Споры былі заняты Чырвонай арміяй. Пад уладай Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта пачалася нацыяналізацыя зямлі і сацыялістычныя пераўтварэнні, але таксама нядоўга. У канцы лютага 1919 года войскі Польшчы пачалі наступленне на Усход і ў красавіку захапілі Паставы. Усе рэформы ВРК былі скасаваныя, зямля вернута гаспадарам. У канцы ліпеня 1920 года ў выніку наступлення Чырвонай арміі на Варшаву Паставы і Споры зноў увайшлі ў склад Савецкай Расіі. Пасля прыняцця Дэкларацыі аб абвяшчэнні незалежнасці БССР 31 ліпеня 1920 года яны сталі часткай незалежнай Беларусі.

Пасля перамоў паміж Польшчай і Савецкай Расіяй 18 сакавіка 1921 года была падпісана Рыжская мірная дамова, паводле якой землі Пастаўшчыны адышлі да тэрыторыі польскай дзяржавы, у так званыя "крэсы ўсходнія". Шыркі, Сіманькі і іншыя вакольныя вёскі сталі часткай утворанай Манькавіцкай гміны Дунілавіцкага павета Віленскага ваяводства.

**Жыццё ў міжваенны час.**

Паводле ўспамінаў мясцовых жыхароў, напрыканцы XIX стагоддзя Зося Дмахоўская выйшла замуж за пана Закшэўскага і перадала права распараджацца землямі свайму мужу. Новы гаспадар палічыў, што землі гэтыя яму не патрэбныя і прадаў іх па кавалках. Надзелы купілі: Пабядзінскі - 15 га. Баранскі - 14 га. Шушко - 14 га, Кляпец - 12 га. Бажычка - 12 га саду, Літвіновіч - 10 га. Таксама зямлю набылі Дробыш, Рудня і іншыя, чые прозвішчы невядомыя. Мясцовым жыхарам найбольш запомнілася сям'я Бажычкі. Яны жылі ў старым сядзібным доме, мелі ферму і вялікі сад. Пані Бажычкова ўмела лячыць, таму мясцовыя жыхары пры

хваробах звярталіся да яе за парадай.

Заставалася вакантнай частка зямлі Вялікіх Спор, якую за велізарныя грошы купіла дачка князя з Вільні Любоў Ножын (Нажынова). Жыла яна з бацькам у Вільні, была вельмі багатая і адукаваная, ведала 5 моў.



*Польскі пашпарт*

На сваіх землях Любоў Нажынова разгарнула будаўніцтва велізарнага маёнтка. Абразны лес на зруб наёмныя працоўныя і сяляне прывозілі на конях з Лынтупаў. Яўрэі з Кабыльніка (зараз вёска Нарач) рабілі бляшаны дах. Кажуць, што калі найміты капалі студню, то паклалі 30 кольцаў. Гэтыя падзеі сталі крыніцамі мясцовых гісторый.

***Лістоўніца на хату***

*Задумаўшы пабудаваць сабе рэзідэнцыю ў маляўнічай узгорыстай мясцовасці сярод шматлікіх азёр у Вялікіх Спорах, пані Нажынова пачала распытвацца пра матэрыялы на будоўлю. Для гэтага яна з’ездзіла ў госці ў Каралінова да пані Рамэровай, дзе агледзела старую, але трывалую і зграбную драўляную сядзібу, якую ў канцы XIX стагоддзя збудавалі па праекце гаспадара маёнтка, вядомага мастака Альфрэда Ромэра. Пазней яна наведала палац Канткоўскіх у Саранчанах, які меў узрост каля 250 гадоў і быў узведзены з лістоўніцы, якую для трываласці вымочвалі ў кіпячай смале.*

*Пані Нажыновай прыйшліся даспадобы рэзідэнцыі суседзяў, і яна загадала, каб і ёй для будаўніцтва сядзібнага дома прывезлі лістоўніцы не менш, чым стогадовага ўзросту. У вакольных лясах вялікіх дрэў, ды яшчэ патрэбнай пароды, не было, таму пачалі вазіць бярвенне з Лынтупшчыны, з Дамуцёўскай пушчы. Але і там лістоўніцы было не багата. Зразумеўшы, што пані не дужа разбіраецца ў драўніне, сяляне сталі пілаваць і грузіць на вазы сасну.*

Сядзібны дом Любові Нажыновай



*У 60-я гады XX ст.*



*У 2004 г.*

*Пані Нажынова ўласнаручна вяла ўлік прывезеных бярвенняў, каб не было ніякіх памылак. Мужыкі на вазах з лесам павінны былі праехаць каля яе часовай рэзідэнцыі, адзначыцца, а потым адвезці бярвенне да новай сядзібы і разгрузіць іх. Здавалася, што ўлік і кантроль былі наладжаны добра. Аднак мужыкі і тут схітравалі.*

*Паколькі пані мела прыблізнае ўяўленне пра Дамуцёўскую пушчу, а многіх сялян у твар не ведала, то некаторыя з іх, праехаўшы з лесам каля пані і адзначыўшыся, потым кіраваліся да бліжэйшай вёскі, адпачывалі там гадзіны 2-3, а потым зноў з гэтым жа дрэвам праязджалі каля старога панскага дома. Пані, не заўважаючы падману, адзначала прывезеныя камлі. Урэшце, у яе спісе аказалася значна больш бярвенняў, чым на самай справе каля сядзібы. Яна так і не зразумела, дзе ж падзеўся запісаны лес. Сама ж вяла ўлік...*

***Бяздонная студня***

*Каля пабудаванага сядзібнага дома пані Нажыновай у Спорах трэба было мець студню, бо да возера Асцюццева па ваду хадзіць было далекавата, а суседні ручай цёк у глыбокай лагчыне з вельмі стромкімі схіламі. І таму пачалі капаць студню. Сяляне-мужыкі працавалі шчыра, стараліся, бо пані паабяцала добра заплаціць. Але дом стаяў на ўзгорку, да ваданосных пластоў было глыбока. Капалі мо з тыдзень. Цымбравіна за цымбравінай уваходзілі ў зямлю, а наверх падымаўся сухі пясочак і каменьчыкі. Усе пачалі нервавацца ды злавацца: столькі работы, а выніку няма.*

*Калі 30-я цымбравіна схавалася ў зямлі, мужыкі задумалі пайсці на хітрасць. Уночы на кані яны прывезлі*



*Студня. Мал. К. Дунец*

*некалькі бочак вады і вылілі яе ў студню, а на наступны дзень пайшлі да пані Нажыновай і сказалі, што пайшла вада. Гаспадыня захацела ўпэўніцца. У яе на вачах апусцілі ў студню вядро і выцягнулі яго напоўненае вадой. Узрадаваўшыся, пані шчодра заплаціла работнікам і тыя пайшлі па сваіх хатах у спадзяванні, што ў хуткім часе іх зноў запросяць паглыбляць студню. Аднак іх ніхто так і не паклікаў. Як на дзіва, у той студні, колькі б з яе вады ні бралі, была яна там заўсёды. І добрая, смачная, халодная...*

Сама Любоў Нажынова прыязджала з Вільні рэдка і запомнілася сялянам тым, што расхаджвала па сваіх уладаннях улетку пад парасонам.

Кіравацъ маёнткам яна паставіла немку Ганну Бохан (Бахунову), у якой было трое дзяцей: Юрась, Віця і Лена.

На Новы год у параднай Ганна ставіла для сваіх сыноў і дачкі вялікую ёлку і запрашала на свята ўсіх сялянскіх дзяцей са Спораў, частавала іх цукеркамі.

Па ўспамінах Улімы Радко, Любоў Нажынова забіла свайго мужа. Яна даведалася, што той злюбіўся са служанкай. І вось аднойчы пані падпільнавала, калі муж абдымаўся-цалаваўся з каханкай, і застрэліла яго. Потым казала: "Я пса забіла". Было тое пры Польшчы.

У фальварку Малыя Споркі знаходзілася сядзіба Мажэйкаў. Па словах мясцовых жыхароў, гэта быў значны па памерах комплекс са шматлікімі будынкамі, ставамі, садам. Бліжэй да возера Споры стаяў сядзібны дом, ці як яго называлі, "пакоі", бліжэй да вёскі Ананічы – гаспадарчыя пабудовы, у тым ліку і вялікая хата для прыслугі. Сядзібны дом, верагодна, быў знішчаны ў час Першай сусветнай вайны. Да нядаўняга часу на тэрыторыі фальварка знаходзіліся германскія пахаванні часоў Вялікай вайны. Дом для прыслугі існаваў і пасля вайны. У ім некаторы час жыла "Мажэйчыха" – старая гаспадыня маёнтка, а таксама сем'і, якія пераехалі з Польшчы, настаўнікі і іншыя, хто не меў свайго жылля. Пазней сын забраў гаспадыню да сябе ў вёску Драбышы, а

будынкі распрадалі. Дом для прыслугі быццам бы быў перавезены ў Паставы на вуліцу Гагарына, дзе будавалі псіхіятрычную бальніцу, а гаспадарчыя пабудовы мясцовыя жыхары скарысталі для ўзвядзення ўласнага жылля.

У вёсцы Яцавічы дзейнічала школа, якая размяшчалася ў вялікай вясковай хаце. Настаўніцай працавала полька Марыя Збаромінская (Збурмінская), якая жыла ў гэтай жа вёсцы разам з маці. Яе муж працаваў у Вільні.



*Жыхары в. Яцавічы. 30-я гады XX ст.*

Марыя Збаромінская спачатку працавала настаўніцай у Гаранях. Запомнілася мясцовым жыхарам тым, што хадзіла ў штанах, зімой каталася на лыжах. У Паставы, бывала, хадзіла пешшу: абутак павесіць на палку, закіне на плячо і шыбуе да мястэчка басанож.

Школа ў Гаранях была чатырохкласная, наведвала яе шмат дзяцей. Старэйшыя прыходзілі раней, меншыя – пазней. Усе займаліся разам.

У Яцавічах настаўніца таксама працавала адна, а школу наведвала каля трыццаці вучняў, таму займаліся ў дзве змены. Збаромінская вучыла дзяцей польскай мове, матэматыцы, гісторыі і духоўна. Настаўніца была строгая, трымала сталёвую дысцыпліну, заўсёды паўтарала: «Я жадаю зрабіць з вас людзей». За свае грошы яна наняла краўчыху, каб тая пашыла ўсім дзецям форму. Купіла шоўк і ўсе дзяўчынкі замелі аднолькавыя каўнерыкі, а хлопчыкі - гальштукі.

Дамаглася ў войта, які кіраваў гмінай і быў да Збаромінскай неабыякавы, каб дзецям у школе дазволілі на перапынках даваць гарачую какаву. Улетку настаўніца вазіла сваіх вучняў на Нарач. Туды прыязджаў з Вільні яе муж са студэнтамі і ўсё разам адпачывалі, купаліся, каталіся на лодках.

Сяляне вёскі працавалі на сваіх землях, вырошчвалі ўраджай, гадавалі быдла. Амаль усе жыхары трымалі вялікую гаспадарку. Гэта давала магчымасць і сабе мець пражытак, і на продаж вывезці. Так, у сям'і Баранскіх у асабістай дапаможнай гаспадарцы мелася чатыры каровы, два кані, пятнаццаць авечак.

Некаторае ўяўленне пра побыт сельскіх гаспадарак Спорскага краю можна атрымаць з дакументаў сям'і Аляксандра Пабядзінскага. Да цяперашняга часу захаваліся польскія пашпарты, дамавая кніга, план зямельнага ўчастка,




*План зямкльнага ўчастка А. Пабядзінскага*

выпіска з іпатэчнай ведамасці. З гэтых матэрыялаў вынікае, што А. Пабядзінскі нарадзіўся ў красавіку 1893 года ў вёсцы Волахі. Яго бацькоў звалі Грыгорый (Гжэгаж) і Тэкла. Былі яны праваслаўнага веравызнання. Жонка Аляксандра Соф’я нарадзілася ў Базылянах, пражывала ў вёсцы Волахі. Была яна каталічка і маладзейшая за мужа на чатырнаццаць гадоў. У 1932 годзе пры правядзенні парцэляцыі А. Пабядзінскі праз іпатэчны крэдыт купіў участак зямлі, які належаў Соф’і-Яніне Казлоўскай. Гэта “парцэла № 14” мела плошчу чатырнаццаць гектараў чатыры тысячы семсот пяцьдзясят пяць квадратных метраў і знаходзілася паміж Гарадзішчам, возерам Світка, ракой Спарыцай і дарогай Шыркі-В. Споры. Большую частку (каля 9 га) займалі ворныя землі, меншую (па 2 га) – невялікі лясок і зараснік кустоўя. Пазней на беразе возера гаспадар пабудаваў хату.


LISTA
osób zamieszkałych
w domu № /
Wielkie Spory
Pobudzinski Aleksander

Тытульны ліст дамавой кнігі

У 1932 годзе ў сям’і нарадзіўся сын, якога назвалі, як і бацьку, Аляксандрам. Некаторы час у хаце жыла служка Яніна Матусевіч з Доўжы, якая дапамагала па гаспадарцы.

У 1932 годзе на сядзібу А. Пабядзіньскага з вёскі Ліпаўка пераехалі жыць жончыны бацькі Кайровіч Станіслаў (1861 г. н.) і Леакадзія (1864 г. н.) разам з сынамі Казімірам (1915 г. н., нежанаты) і Антоніем (1910 г. н.) з жонкай Марыяй (1915 г. н.).

Як бачым, рэформы, якія праводзіў польскі ўрад, давалі магчымасць сялянам не толькі атрымаць зямлю, але і за кароткі тэрмін наладзіць трывалую гаспадарку, якая здольная была забяспечыць жыццёвыя патрэбы не толькі сям’і, але і значнай колькасці родзічаў.

Умелі ў Спорах працаваць, умелі і адпачываць. Увосень, сабраўшы ўраджай, спраўлялі танцы. Ладзіліся яны ў любой хаце ў сенях. Часта ўладкоўвалі закладныя танцы: запрашалі моладзь з суседніх вёсак, садзілі ўсіх за стол, частавалі, а потым танчылі да раніцы.

Электрычнасці на той час не было, святло прыйшло ў вёску толькі ў 60-я гады, таму тапілі авечы лой і рабілі штосьці накшталт свечак.

Усе жыхары былі набожныя, прытрымліваліся хрысціянскіх святаў. Каталікі хадзілі маліцца ў задзеўскі касцёл, праваслаўныя – у пастаўскую царкву.



*Будаўніцтва дарогі Паставы-Вярэнькі каля вёскі Барадзіно. 30-я гады XX ст.*

Міжваенным часам на поўнач ад Вялікіх Спораў паміж вёскамі Шыркі і Кашыцы польскімі ўладамі была выдзелена зямля для ўтварэння асады "Доўжа". Асаднікі - гэта вайсковыя і цывільныя каланісты, якіх польскі ўрад перасяляў з цэнтральных раёнаў Польшчы ў Заходнюю Беларусь. Яны атрымлівалі па некалькі дзесяткаў гектараў зямлі і пасяляліся пераважна ўздоўж савецка-польскай мяжы. Асаднікі мелі

зброю і аб'ядноўваліся ў «Саюз былых абаронцаў усходніх ускраін», выконвалі паліцэйскія, адміністрацыйныя і антыдывэрсійныя функцыі.

Асаду "Доўжа" ўтваралі дзесяць сядзіб хутарскога тыпу, уласнікамі якіх былі былыя польскія вайскоўцы ніжэйшых армейскіх чыноў: шараговыя (радавыя) Ян Чарняк, Францішак Корсар, Міхал Савіцкі, сяржанты Станіслаў Бочань, Казімір Косцюх, Браніслаў Кудрыцкі, Андрэй Ленік, капралы Юліян Бялеўскі, Ёзэф Чубак і Станіслаў Ніта.

**У Другую сусветную.**

1 верасня 1939 года Германія напала на Польшчу, распачаўшы Другую сусветную вайну. Праз 17 дзён Чырвоная Армія з усходу рушыла на Заходнюю Беларусь. У Паставах усталявалася савецкая ўлада, а 2 лістапада 1939 года Пастаўшчына ўвайшла ў склад БССР. Ганну Бохан з маёнтка перасялілі ў вёску Яцавічы. У вялікай сядзібе Любові Нажыновай зрабілі бібліятэку, школу, а ў 1940 годзе і Загацкі сельскі Савет. Старшынёй Савета быў Навумчык. Польская настаўніца Збаромінская з'ехала ў Вільню да мужа.

Вось што пісаў пра маёнтак у Спорах пастаўскі краязнаўца Яўген Чарэнка ў нарысе "Зямля і гаспадары": "Сярэдніх памераў маёнтак існаваў у польскія часы ў Спорах. З пачаткам аграрнай рэформы яго землі са згоды ўладальніцы Дмахоўскай распрадалі. У ваколіцах Спор з'явіліся заможныя сялянскія гаспадаркі Соф'і Пабядзінскай, Лявона Сівіцкага, Соф'і і Паўліны Ліпніцкіх і іншых. Пасля парцэляцыі засталіся толькі невялікі надзел і маёнтак, якімі да 1939 года валодаў Іосіф Бажычка. Пасля прыходу савецкай улады гаспадарку канфіскавалі. Сам гаспадар не збег, не трапіў пад рэпрэсіі, мабыць, таму, што не падпадаў пад катэгорыю буйных эксплуатататараў. Новая ўлада нават прапанавала яму пасаду загадчыка падсобнай гаспадаркі, якую стварыла тут аб'яднанне "Плодагароднінагандаль". Як добры гаспадар Бажычка спачатку карыстаўся даверам, але ўсё ж неўзабаве хваля барацьбы з "ворагамі" змяла з Пастаўшчыны і яго.

Будынкі памесця ў 1949 годзе перадалі пад школу. Сялянскія ж гаспадаркі, створаныя на выкупленых надзелах, да канца 30-х гадоў значна ўмацаваліся і сталі заможнымі. Але ў 1940 годзе ўсе яны былі раскулачаны, землеўладанні абрэзаны, а пасля вайны гаспадароў, нягледзячы на тое, што ў іх ужо амаль усё адабралі, зноў залічылі ў кулакі, і яны падпалі пад поўную ліквідацыю. Адна толькі Соф'я Пабядзінская цудам пазбегла вывазу ў Казахстан, а ўсе астатніяназаўсёды зніклі з зямлі Пастаўшчыны".

Паводле кнігі "Памяць. Пастаўскі раён", селянін-аднаасобнік Андрэй Гіль з вёскі Сімонкі ў жніўні 1940 года быў асуджаны на 8 гадоў зняволення ў ППЛ, рэабілітаваны ў 1992 годзе.

Жыхары Спораў працягвалі жыць, займацца сваімі штодзённымі справамі, але мірнае жыццё перапыніла вайна. Пачалася фашысцкая акупацыя. Ганна Бохан з сям'ёй вярнулася ў княжы маёнтак. Да яе дачкі Лены часта прыязджалі немцы.

Аднойчы ў вёску наведаліся тры партызаны, адзін з якіх, Борыс, быў родам з вёскі Сіманькі, і засталіся днаваць. Усе жыхары вёскі баяліся, што з хвіліны на хвіліну да Боханаў прыедуць немцы і ўбачаць партызанаў. Дванаццацігадовы Мікалай Баранскі запрог ім каня і партызаны паспелі з'ехаць. Дарэчы, немка Ганна Бохан пазней адкупіла ў немцаў за грошы палонных партызан. Так яна выратавала Борыса і Шурпіка.

Борыс Васіль Іосіфавіч (1919 г.н.), партызан, са жніўня 1944 года знаходзіўся ў дзеючай арміі, стралок. Узнагароджаны ордэнамі Славы III ступені і Айчыннай вайны I ступені, медалём "За вызваленне Варшавы".

З вёскі Шпакі быў родам Яўген Брадовіч, сын сакратара Пастаўскага РК КПЗБ Кірылы Брадовіча. У 1929 годзе ён узначальваў Яцавіцкую камсамольскую падпольную арганізацыю, у 1934 годзе ўступіў у шэрагі камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Пасля далучэння "крэсаў усходніх" да Савецкай Расіі працаваў старшынёй сельсавета. У час

вайны змагаўся з фашыстамі ў партызанскай групе Сяргея Пронькі, пазней – у атрадзе імя Суворава. Загінуў у студзені 1943 года ў баі з гітлераўцамі каля вёскі Калодзіна Мядзельскага раёна.



*Іван Навумчык і Яўген Брадовіч. 1929 г.*

Паволе ўспамінаў старажылаў, немцы ганялі жыхароў Спораў на шараварку - рамантаваць дарогу Паставы-Лынтупы.

У канцы вайны Ганна Бохан выехала ў Германію.

У пачатку ліпеня 1944 года ў выніку імклівага наступлення Савецкай Арміі Пастаўшчына была вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У раёне паступова пачала ўсталёўвацца новая савецкая ўлада. Фронт пайшоў на захад.

Паводле слоў І. Навумчыка, "усе мужчыны адпаведнага ўзросту ў ліпені 1944 г. пасля вызвалення нашых мясцін былі прызваныя ў армію. З нашай вёскі Яцэвічы ўсіх прызваных направілі ў часці Войска польскага, як католікаў па веравызнанні. Палякамі яны сябе не лічылі, усе гаварылі па-беларуску. З нашай вёскі практычна ўсе вярнуліся з фронту ў 1945 годзе, у тым ліку і мой бацька."

Перад самым Новым годам, 29 снежня 1944 года, з вёскі Вялікія Споры прызвалі ў армію Мікалая Баранскага, адправіўшы яго ў Вілейку вучыцца размініраваць міны. Пазней ён патрапіў на фронт і стаў адзіным з вёскі ўдзельнікам вайны.

Шэраг жыхароў Спорскага краю загінула ад куль фашысцкіх захопнікаў. З вёскі Крэўні Іосіф Аўгусціновіч і Віктар Радко расстраляны ў 1944 годзе немцамі за садзейнічанне партызанам, пахаваны ў вёсцы Радуга (Паздзюткі). З вёскі Сіманькі фашысты расстралялі Мікалая

Борыса; партызан Яўген Борыс загінуў у 1943 годзе, пахаваны ў вёсцы Кашыцы. З вёскі Яцавічы партызанскі сувязны Вацлаў Квяткоўскі расстраляны немцамі ў чэрвені 1942 года; партызан Браніслаў Квяткоўскі загінуў у лютым 1942 года, пахаваны ў Паставах.

**Пасляваенным часам. Арганізацыя калгасаў.**

У 1950 годзе вёскі ў ваколіцах Вялікіх Спор ўвайшлі ў склад утвораных дробных калгасных гаспадарак: «Красная горка», «Ясная зорька», «Счастливая жизнь».

2 чэрвеня 1950 года ў Яцавічах раённымі ўладамі быў наладжаны сход жыхароў з мэтай арганізацыі ў вёсцы калгаса. Вёў мерапрыемства ўпаўнаважаны па нарыхтоўках Кацнельсон, якому людзі далі мянушку "Купіздай": калі селянін не меў для здачы дзяржаве патрэбнай колькасці збожжа, бульбы, лёну, воўны або яшчэ якога вызначанага прадукта, то гэты начальнік заўсёды раіў "Купі і здай!". Гаспадароў сабралі амаль у цэнтры вёскі ў хаце Адама Навумчыка і ўпаўнаважаны настойліва агітаваў вяскоўцаў арганізавацца ў калгас. Аднак ахвотных не было. Сяляне прыдумлялі розныя адгаворкі, каб толькі застацца аднаасобнікамі. Сход зацягваўся, калгас не арганізоўваўся. І тут расчыніліся дзверы, і ў хату ўвайшоў начальнік МГБ з двума аўтаматчыкамі. Кацнельсон узрадаваўся, запрасіў таго ў "прэзідыум". Але начальнік застаўся каля дзвярэй, прамовіўшы толькі "Продолжайте, продолжайте." І тады вядоўца сходу задаў грамадзе правакацыйнае пытанне: "Кто против вступления в колхоз?". Супраць нікога не было. Гаспадарам засталося толькі распісацца ў загадзя падрыхтаваных спісах. Так быў створаны калгас "Красная горка".

Праз чатыры дні пачалося абагульненне маёмасці новых калгаснікаў. У Глыбоцкім міжраённым архіве захоўваюцца спісы жыхароў Яцавічаў, Спораў і іншых вакольных вёсак, якія арганізаваліся ў калектыўныя гаспадаркі "Красная горка", "Ясная зорька", "Счастливая жизнь", з пазначэннем жывёлы,

будынкаў і гаспадарчага рыштунку, перададзенага ў агульнае карыстанне.

### *Абагульненне маёмасці ў калгасе "Красная горка" 6 чэрвеня 1950 года.*

Квяткоўская Ядвіга Вік. (кабыла, жарабец, воз, збруя, хамут, плуг, барана, сані, ток) 445 руб;

Квяткоўскі Эдварт (кабыла, воз, збруя, хамут, плуг, барана, сані) 410 руб;

Квяткоўскі Канстанцін (кабыла, воз, плуг) 215 руб;

Квяткоўскі Іван Эдв. (жарабец) 200 руб;

Квяткоўская Антаніна (ток) 40 руб;

Квяткоўскі Казімір (барана, плуг, ток, 2 колы) 70 руб;

Буслоўскі Осіп (конь, воз, збруя, хамут, плуг, барана, сані) 430 руб;

Жук'ян Осіп (кабыла, воз, збруя, хамут, плуг, барана, сані, ток) 590 руб;

Каралёнак Іван (з 1951 г) (конь, воз, плуг, барана, збруя, хамут, сані, гумно) 210 руб;

Навумчык Адам (кабыла, воз, збруя, хамут, плуг, барана, ток) 513 руб.

Таксама ў калгас "Красная горка" ўступілі: Радко Валерый (унёс маёмасці на суму 868 рублёў), Каравацкі Казімір (290 руб), Квяткоўскі Восіп (602 руб), Навумчык Браніслаў (155 руб), Квяткоўскі Іван Ант. (440 руб), Квяткоўскі Аляксандр (577 руб), Квяткоўскі Франц (365 руб), Граблеўская Ганна (130 руб), Навумчык Антон (550 руб), Навумчык Франц (44 руб), Квяткоўская Ядвіга Сцяп. (385 руб).

### *Абагульненне маёмасці ў калгасе "Шчаслівае жыццё" 6 чэрвеня 1950 года.*

(Прозвішча, імя; маёмасць; кошт у рублях)

1. Аўгусціновіч Аляксандр (конь, гумно, веялка, саломарэзка, воз, сані, плуг, збруя, барана, драпак) 465 р.
2. Аўгусціновіч Вікенцій (конь, гумно, воз, саломарэзка, сані, плуг, збруя, барана, драпак) 709 р.

3. Пашкевіч Антон (конь, гумно, воз, сані, плуг, збруя, барана) 411 р.
4. Койра Людвік (конь, гумно, воз, сані, плуг, збруя, барана) 424 р.
5. Канчанін Віктар (конь, гумно, малатарня, веялка, воз, сані, плуг параконны, збруя, барана, драпак) 765 р.
6. Канчаніна Марыя (конь, гумно, воз, сані, плуг параконны, збруя, барана) 634 р.
7. Ворса Даніла (конь, гумно, воз, сані, плуг параконны, збруя, барана) 422 р.
8. Шушко Саламона (конь, гумно, плуг, барана, драпак) 497 р.
9. Савіч Іван (конь, плуг, барана, сані) 332 р.
10. Баранскі Васіль (конь, гумно, малатарня, прывад, веялка, саломарэзка, воз, сані, плуг, збруя, барана, драпак, свіран) 1187 р.
11. Кайровіч Антон (конь, воз, сані, плуг, збруя, барана) 475 р.
12. Пабядзінскі Аляксандр (плуг параконны, барана) 25 р.
13. Квяткоўскі Антон (конь, гумно, плуг, збруя, барана) 259 р.
14. Чаховіч Антон (конь, гумно, плуг, саломарэзка, воз, сані, збруя, барана, драпак) 668 р.
15. Жук’ян Антон (конь, гумно, сані, падсанкі, воз, плуг, барана, драпак, збруя) 615 р.
16. Радзевіч Марыя (жатка, плуг параконны, плуг акучнік з колам) 455 р.

На той час у Спорах мелася 8 двароў, гаспадарамі якіх былі Шушко, Літвіновіч, Баранскі, Пабядзінскі, Ворса, Антановіч, Кайровіч, Савіч. Усяго пражывала 35 жыхароў, якія працавалі ў паляводстве і жывёлагадоўлі. Кожная сям’я мела свой адметны лёс, які ў агульных рысах быў падобны на лёсы большасці сялян пасляваеннага часу. Сярод іх выдзялялася сям’я Івана Савіча. Сам гаспадар у 30-я гады выехаў на заработкі ў Францыю, пакінуўшы дома маладую жонку з двума дзецьмі. Знайшоў на чужыне нядрэнную

работу, уладкаваўся. Праз некаторы час выклікаў да сябе сям'ю. Жыццё паступова наладжвалася, нараджаліся адно за адным дзеці. Усяго ў сям'і іх было дванаццаць. Жылі ў вялікім двухпавярховым доме. Але пасля вайны пад уздзеяннем савецкай прапаганды гаспадар вырашыў вярнуцца на радзіму, у краіну, дзе будавалі камунізм. Перад ад'ездам, калі праходзіў медыцынскую камісію, доктар сказаў Савічу, што ён здаровы, вось толькі з галавой непарадак: меў на ўвазе выезд у СССР. А вярнуўся на радзіму – як у пекла патрапіў. Пражыць і пракарміць вялікую сям'ю не было ніякай магчымасці. Дапамагла радня, якая разабрала частку дзяцей па сваіх сем'ях. Былыя французы разам з яшчэ некалькімі сем'ямі жылі спачатку ў будынку для парабкаў фальварка Малыя Споры, а потым ім выдзелілі хату ў вёсцы. Паводле архіўных звестак, у 1951 годзе ў сям'і Савіча Івана Мартынавіча было адзінаццаць чалавек, на момант уступлення ў калгас "Шчаслівае жыццё" мелася 5 гектараў зямлі. Пасля адкрыцця Вялікаспорскай школы гаспадар працаваў у ёй вартаўніком.



*Вяскоўцы*

Утвораныя калгасы праіснавалі нядоўга. Бацька Віктара Іванавіча Квяткоўскага, Іван Антонавіч (1914 г. н.), некаторы час узначальваў калгас у Яцавічах, але пасля ўз'яднання гападарак адмовіўся ад пасады – не хапала адукацыі. Працаваў у будаўнічай брыгадзе, узводзіў амаль усе фермы і сацыяльна-значныя аб'екты ў Спорскім краі. Яго сястра, Феліцыя Антонаўна, была перадавой калгасніцай, ездзіла ў Маскву на ВДНГ, дзе была ўзнагароджана медалём.



*У. Радка, В. і І. Чалей. 1950 г.*

У пасляваенны час зарплату калгаснікам плацілі адзін раз у год. Па грошы старшыні калгаса даводзілася дабірацца ў Паставы і браць з сабой вялікую торбу, бо банкнот выдавалі многа. Як успамінаў Іван Антонавіч Квяткоўскі, аднойчы ён, набіўшы навалочку грашыма, накіраваўся было на Яцавічы, але заўважыў, што за ім цікуюць нейкія падазроныя людзі. Каб іх абхітрыць, старшыня калгаса скіраваўся спачатку ў Дукі, дзе жылі бацькі жонкі, а потым, перачакаўшы, падаўся дадому. Страху тады набраўся вялікага.

У 1952 годзе дробныя калгасныя гаспадаркі аб'ядналі і вёска Вялікія Споры ўвайшла ў склад калгаса «Слава», старшынёй якога быў В. Я. Прыходзька.

Каля былога старога сядзібнага дома была



*Трактарыст Э. Навумчык. 1960-я гады.*

пабудавана жывёлагадоўчая ферма, якая дзейнічала да 90-х гадоў XX стагоддзя. Пра яе ўзвядзенне пісала раённая газета "Савецкі шлях": "На месцы былога панскага маёнтка ў калгасе "Слава" вырас жывёлагадоўчы гарадок. Чатырохрадны кароўнік з аўтапаілкай, кармакухняй стаў гордасцю калгаснікаў. За апошні час сельгасарцель купіла 3 аўтамашыны, 3 трактары, дызельную электрастанцыю, універсальную сушылку."



*На сенакосе*

Пазней калектыўная гаспадарка мела назву "калгас імя Асяненкі", у наш час – сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў (СВК) "Шыркі".

Шэраг працаўнікоў калгаса "Слава" (імя Асяненкі), у які ў 60-80-я гады ўваходзілі вёскі Спорскага краю, атрымалі за сваю работу высокія дзяржаўныя ўзнагароды. Сярод іх В. Прыходзька (ордэны Працоўнага Чырвонага Сцяга і Знак Пашаны), С. Савіч (ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга), І. Чыпко (ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга), Ю. Сіманька (ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга), Ф. Жамойдзь (ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга), В. Цітовіч (ордэн

Кастрычніцкай рэвалюцыі), Г. Антух (ордэн Знак Пашаны), П. Гіль (ордэн Працоўнай славы III ступені), Р. Гобіс (ордэн Працоўнай славы III ступені). Трактарыст калгаса імя Чапаева, ураджэнец в. Яцавічы, Э. Навумчык узнагароджаны ордэнам Працоўнай славы III ст.



*Ардэнаносцы калгаса «Слава» Ю. Сіманька, В. Цітовіч, П. Гіль*

**Школьніцтва.**

У 1945 годзе ў вёсцы Яцавічы была адчынена пачатковая школа. Месцілася яна ў адной з арандаваных хат. У першым класе дзяцей вучыла Францішка Адамаўна Скурко, жонка роднага брата Максіма Танка. Разам з мясцовымі школьнікамі спасцігаў азы граматы і яе сын Іосіф, які потым стаў вядомым беларускім паэтам. Яго песня "Верасы" і зараз гучыць на рэспубліканскім радыё.

У першым класе на больш чым дваццаць вучняў меўся адзін буквар, які быў у настаўніцы, а паперу замяняла адна грыфельная дошка.

Пасля вайны пачатковыя школы дзейнічалі таксама ў Ананічах і Шырках. У глыбоцкім архіве захоўваюцца матэрыялы абследавання шыркаўскай школы, падрыхтаваныя інспектарам раённага аддзела адукацыі. З іх можна даведацца, што настаўніцай у ёй працавала першы год Ганц Ніна Аляксандраўна, якая мела поўную сярэднюю адукацыю і закончыла трохмесячныя педагагічныя курсы. У школе навучалася 29 дзяцей. У дакуменце адзначаецца: "Учительница строгая, следит за посадкой учеников, за умением держать карандаш, тетрадь… Учительница активно участвует в работе избы-читальни".

У Ананічах пачатковая школа пачала працаваць таксама

пасля вайны. Спачатку яна размяшчалася на ўскрайку вёскі каля рэчкі ў хаце Вашкевічаў, пазней была пераведзена бліжэй да цэнтра паселішча ў хату Навумчыкаў. Настаўніцы мяняліся часта. У 1948 годзе ў школе вучыла дзяцей Фаіна Сулейманаўна Паўтаржыцкая. У тым жа годзе гэта пачатковая школа была зачынена і дзеці пачалі хадзіць у Вялікія Споры. Там, у былым маёнтку Любові Нажыновай, адчынілася васьмігодка. Яе першым дырэктарам быў Ульян Ульянавіч Давідоўскі. У школе вучыліся дзеці з усіх бліжэйшых вёсак: Шырак, Ананічаў, Салаўёў, Мацутаў, Дварчанаў, Крэўняў, Яцавічаў.



*Пачатковая школа ў в. Ананічы, 1948 год (злева направа)*

*1 рад: 1.Каралёнак Эдуард 2.Масько Ірына 3.Навумчык Уладзіслава 4.Грыбоўская Людміла 5.Пабядзінская Ганна 6.Каралёнак Камілія 7.Саўчук Тадэвуш 8.Макоўская Ядвіга*

*2 рад: 1.Адамовіч Бярнард 2.Гобіс Рышард 3.Мацвееў Ягор 4.Жамойдзь Іван 5.Раманава Алена Мікалаеўна – настаўніца пачатковых класаў 6.Саўчук Галіна 7.Каралёнак Баляслава 8.Навумчык Станіслава 9.Адамовіч Браніслаў*

*3 рад: 1.Сабачэўскі Казімір 2.Макоўскі Адам 3.Саўчук Іосіф 4.Грыбоўская Эльвіра 5.Вашкевіч Ванда 6.Грыбоўскі Генадзь 7.Яхімовіч Іосіф*



*Вучні Вялікаспорскай школы, 1950 год, 1-3 клас (злева направа)*
*1 рад: 1.Дубовік Лідзія 2.Доўмант Марыя 3.Шырко Зінаіда 4.Жук'ян Тэрэса 5.Канчаніна Ядвіга 6.Аўгусціновіч Ядвіга*
*2 рад: 1.Лушчык Станіслава 2.Квяткоўская Браніслава 3.Давідоўская Ніна 4.Паўтаржыцкая Фаіна Сулейманаўна – настаўніца пачатковых класаў 5.Сіманька Галіна 6.Савіч Крысціна 7.Саўчук Алена*
*3 рад: 1.Аўгусціновіч Вайцех 2.Варанец Іван 3.Навумчык Станіслава 4.Літвіновіч Алена 5.Квяткоўскі Багдан 6.Гобіс Рышард 7.Лекарэвіч Іосіф*

У Вялікаспорскай васьмігадовай школе пасля У. Давідоўскага дырэктарамі былі Герцыковіч, Усачоў, Агурцоў, Саўрыцкі (з уласнай ініцыятывы ён надаў школе імя партызана Брадовіча, але імя школы афіцыйна не зацвердзілі і шыльду давялося зняць), Гінько і з 1972 года – Гутар Генадзь Антонавіч. У 70-я гады школу наведвала каля сарака вучняў, працавала восем настаўнікаў.

У 1984 годзе ў вёсцы Шыркі, цэнтры калгаса імя Асяненкі (раней калгас “Слава”, у наш час - СВК “Шыркі”), пабудавалі новую васьмігадовую школу.



*Настаўнікі Вялікаспорскай школы, 1955 г. (злева направа)*
*Людміла Сямёнаўна ?(піянерважатая), Міхаіл Васільевіч Балашкоў (фізіка, матэматыка), Марыя Фамічаўна Квяткоўская (сакратар), Абрам Саламонавіч Герцыковіч (дырэктар, гісторыя, геаграфія), Марыя Міхайлаўна Андрыеўская (руская мова і літаратура), Алена Мікалаеўна Раманава (малодшыя класы), Валянціна Аляксееўна Міронава (беларуская мова і літаратура)*

У Спорах навучальную ўстанову зачынілі. Будынак спачатку выкарыстоўваўся раённым аддзелам адукацыі як турыстычная база, а потым быў выкуплены аграбудфірмай «Рассвет” з мэтай стварэння турыстычна-аздараўленчага комплекса. Да былой драўлянай сядзібы прыбудавалі мураваны корпус, у якім былі ўладкаваны пакоі для будучых адпачываючых. Аднак эканамічны крызіс не дазволіў закончыць будаўніцтва, некаторы час аб’ект пуставаў. Зараз на месцы былой сядзібы – попел і друз. Па словах мясцовых жыхароў, будынак быў спалены па загаду аднаго з высокіх пастаўскіх начальнікаў, а цэгла і блокі расцягнуты на дачы, якія ў гэты час актыўна ўзводзяцца на берагах азёр.




*Вялікаспорская васьмігадовая школа.1974 г. (злева направа):*

*1 рад зверху: Сіманька Гена, Матусевіч Юра, Ліпніцкі Сяргей, мазырка Гена, Юркайць Алег, Квяткоўскі Браніслаў, Ворах Андрэй*

*2 рад: Нарушэвіч Марына, Асяненка Іра, Гобіс Ліля, Канчаніна Валя, Курсевіч Алег, Пабядзінская Оля, Граблеўская Аня, Каравацкая Марына.*

*3 рад: Чатовіч Багдан, Кірылаў Гена, Канчаніна Марына, Каралёнак Света, Канчаніна Рэгіна, Радко Зоя, Курсевіч Рая, рагальская Лена, Васільеў Лёня, маліноўскі Слава, Нагановіч Валянцін.*

*4 рад: Маліноўская Вольга, Антановіч Ліля, Гобіс Рыта, Каралёнак Люда, Клянцэвіч Алена, Жамойдзь Юра, матусевіч Саша, Борыс Юра, Грыбоўскі Віця, Квяткоўскі Лёня, Клянцэвіч Валянцін, Грыбоўскі Слава.*

*Настаўнікі: Асяненка Арыядна Уладзіміраўна, Ліпатава Фаіна Пятроўна, Саўрыцкая Вольга Міхайлаўна, Гутар Еўдакія Васільеўна, Гутар Генадзь Антонавіч, Раманава Алена Мікалаеўна, Аліхвер Валянціна Уладзіміраўна, Клянцэвіч Тамара Іванаўна.*

Спорскі край – радзіма некаторых вядомых на Пастаўшчыне і ў Беларусі людзей. Гэта змагары супраць нацыянальнага і фашысцкага прыгнёту бацька і сын Кірыла і Яўген Брадовічы, старшыня Рады Віцебскай абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы, былы сакратар

абкама КПБ Іосіф Навумчык, былы старшыня калгаса і сельсавета ў Дварчанах Эдмунд Адамовіч, былы дырэктар саўгаса ў Лынтупах Леанід Квяткоўскі, начальнік падатковай інспекцыі ў Паставах Віктар Квяткоўскі і іншыя.



*Будынак Вялікаспорскай школы. 2004 г.*

На першага студзеня 2005 года ў вёсцы Вялікія Споры налічвалася 10 дывароў, пражывала 15 чалавек. Старэйшына вёскі - Маліноўская Наталля Васільеўна, 1937 года нараджэння.

У 2011 годзе ў вёсцы Вялікія Споры было 8 гаспадарак, пражывала 11 чалавек, з якіх толькі 3 працаздольныя. Невялікую колькасць жыхароў мелі і некаторыя суседнія вёскі: Яцавічы – 9, Салаўі-Ананічы – 22, Сіманькі – 7. Значна больш жыхароў было на галоўнай сядзібе калгаса ў вёсцы Шыркі. Там мелася 81 гаспадарка, 212 чалавек.

## ТУРЫСТЫЧНЫЯ МАГЧЫМАСЦІ СПОРСКАГА КРАЮ

Спорскі край мае выдатныя прыродныя магчымасці для развіцця турызма і адпачынку людзей. Такіх прыгожых краявідаў, дзе на невялікай тэрыторыі спалучаюцца глыбокія і чыстыя азёры з лясамі і лугамі на ўзгорках і лагчынах, мала знойдзецца на Пастаўшчыне, ды і ў Беларусі іх няшмат. Тут раўназначна паспяхова могуць ладзіцца і зімовыя, і летнія віды адпачынку. Летам прываблiваюць людзей азёры, асабліва берагі тых вадаёмаў, дзе ёсць магчымасць купацца і загараць. Спецыялісты праводзілі абследаванне азёр з мэтай вызначэння іх рэкрэацыйных магчымасцяў. Устаноўлена, што на возеры Світа ёсць восем месц адпачынку і два месцы для купання, на возеры Світка – два месцы для купання, на Спорах – тры месцы для купання, на Спорках – адно месца для купання. На азёрах Глодава, Чэцверць, Быкова Вока, Светлае, Варверава, Глыбочыца месц для купання не вызначана.

Акрамя магчымасцяў адпачынку азёры вабяць сваімі рыбнымі багаццямі. Рыбакоў бывае шмат. Яны ловяць як з берага на паплаўковыя вуды і донкі, так і з лодак. У вадаёмах водзяцца ліны, карасі, шчупакі, акуні, плоткі, чырванапёркі, ляшчы, сустракаюцца вугры і самы.

Часта на ўзбярэжжах прыпыняюцца турыстычныя групы. Асабліва прыдатным месцам для размяшчэння часовага лагера і ўстаноўкі намётаў з’яўляецца перашыек каля пратокі паміж Світай і Світкай. Па традыцыі тут на дзень раўнадзенства збіраюцца паслядоўнікі паганскіх традыцый, ці як іх называюць мясцовыя жыхары, “дзеці Сонца”. У сваіх абрадавых дзяннях яны імкнуцца наблізіцца да першакрыніц народнага духу.

У 80-90-я гады каля вёскі Вялікія Споры праводзіліся міжшкольныя раённыя турзлёты. Вялікі намётавы лагер размяшчаўся на ўзгорку каля возера Асцюццева справа ад дарогі. Самі ж спаборніцтвы праходзілі пераважна на Гарадзішчы.

Замежнае прыватнае вытворчае ўнітарнае прадпрыемства "Нордальфа-Бел" распрацавала праект комплекснай забудовы заходняга берага возера Світка, які называецца "Объект «Квартал коттеджной застройки для строительства жилых домов на продажу



*План забудовы катэджаў*

в деревне Споры Большие Ширковского сельсовета Поставского района Витебской области». Зямельны ўчастак плошчай 2,8315 га размешчаны ў водаахоўнай зоне возера. Плануецца пабудаваць дзесяць будынкаў шасці тыпаў агульнай плошчай 2 000 м$^2$. Агульны кошт будаўніцтва складзе 1200000 долараў ЗША. Планавалася пачаць будаўніцтва ў сакавіку 2012 года і закончыць да сакавіка 2013 года. Аднак толькі летам 2014 года была пракладзена дарога, да якой павінны прымыкаць катэджныя ўчасткі і забудовы.



*Адзін з тыпаў катэджаў*

Спорскі край мае выдатныя магчымасці для арганізацыі агра- і экатурызма, стварэння аграэкасядзіб. Аднак пакуль што ідзе працэс індывідуалізацыі асобных участкаў: мясцовых жыхароў становіцца ўсё менш, хаты пераходзяць пад дачы радні або набываюцца гараджанамі, якія ўладкоўваюць лецішчы пад свой густ для ўласнага адпачынку. Новыя прыватныя пабудовы ўзніклі як на месцы былых участкаў прыазёрных вёсак, так і на незабудаваных раней берагах. Такім чынам з'явіліся багатыя катэджы на ўсходнім беразе возера Світа, заходніх берагах азёр Світка, Споры, Доўжа.

Найбольш перспектыўнай для развіцця аграэкатурызма на сённяшні час з'яўляецца сядзіба вядомага пастаўскага бізнесоўца і фатографа Антона Чалея, якая знаходзіцца на ўездзе ў в. Яцавічы. Гаспадар акультурыў тэрыторыю, адбудаваў былую сялянскую хату, абсталяваўшы яе ўсімі выгодамі, узвёў лазню. Адметную ролю ў створаным комплексе адыгрывае вялікі штучны стаў з масткамі, лодкамі і вялікай колькасцю рыбы. У бліжэйшай будучыні сядзіба можа стаць прывабным месцам сямейнага і калектыўнага адпачынку, выкарыстоўвацца для правядзення карпаратыўных мерапрыемстваў.



*Сядзіба Антона Чалея*

Пасля закрыцця Вялікаспорскай школы яе будынак – былы сядзібны дом княжны Любові Нажыновай, меў магчымасці стаць адметным цэнтрам арганізацыі адпачынку ў Спорскім краі. Спачатку ў ім размяшчалася турыстычная база раённага аддзела адукацыі, пазней міжкалгасная будаўнічая арганізацыя праводзіла рэканструкцыю, якая павінна была ператварыць аб'ект у санаторый-прафілакторый. Аднак параўнальна нядаўна будынак быў спалены і зараз на яго месцы толькі друз.



*Друз на месцы былой сядзібы Л. Нажыновай (былой школы)*

З прычыны забудовы берагоў з кожным годам памяншаецца колькасць месцаў для калектыўнага і індывідуальнага адпачынку. Практычна не праводзяцца мэтанакіраваныя мерапрыествы па больш эфектыўнаму выкарыстанню рэкрэацыйнага патэнцыялу мясцовасці, павышэнню камфортнасці людзей у час знаходжання на прыродзе. Няма ўладкаваных пляжаў, азёры зарастаюць трыснягом, крапіва і хмызняк падступаюць да самай вады. Хочацца спадзявацца, што ў бліжэйшай будучыні Спорскі край стане асноўнай зонай адпачынку жыхароў Пастаўшчны, уладкаванай у адпаведнасці з сучасным узроўнем развіцця чалавечай цывілізацыі.

# ДАКУМЕНТЫ

**Дакумент 1**

**Судовая справа паміж князямі Свірскімі і Германовічам**

8 серпня 1503 г.

Сам Аляксандр, кароль польскі і вялікі князь разгледзеў гэту справу з панамі радай нашымі. Стаялі перад намі асабіста са скаргай князь Марцін і князь Якуб Пятковіч Свірскія з нявесткай сваёй Янушковай на баярына нашага на Каспара Германовіча, што быццам бы ён трымае пад сабой тры двары іх айчызныя пад назвамі Сірмеж, Споры і Свір бяспраўна. І Каспар паведаміў нам, што атрымаў дзедзіну іх княгіні Яновую Рамановіч з тымі дварамі, якія запісаў жонцы маёй дзядзька іх князь Ян, першы муж яе, такім чынам: два двары на імя Сірмеж і Споры ў трохсот копах шырокіх грошай, а трэці двор Свір вечна ёй запісаў; і той ліст з запісам дзядзькі іх Яна перад намі паказваў. І князі Свірскія той ліст запісу зачапілі: дзядзька той наш таго запісу рабіць не загадваў, а ці хто таму сведка, які хацелі запіс пісаць. І Каспар аб тым спаслаўся на каплана нашай капліцы, на князя Яна Ліскана, і на каплана пана Марцінавай капліцы, на князя Міхала, які тое сваёй рукой пісаў. І мы тых капланаў апыталі, і тыя капланы папярэдне прысягнулі перад князем біскупам Віленскім і сведчылі перад намі, што той запіс дзядзька іх князь Ян загадаў напісаць па сваёй добрай волі, будучы ў добрым здароўі яшчэ перад сваёй смерцю мала не за два гады. І нам, і радзе была бачна няслушная рэч, што князь Ян жонцы сваёй так многа запісаў: падумаўшы, мы з панамі радай нашай вырашылі паміж імі так: два двары, Сірмеж і Споры, князям Свірскім прысудзілі, а трэці двор Свір з пяцьдзясят чалавекамі павялелі Каспару трымаць паводле запісу дзядзькі іх князя Яна, першага мужа жонкі Каспара. І пацвярджаем тое гэтым нашым лістом вечна, яму і яго жонцы і іх дзецям, і на потым будучым іх нашчадкам: няхай Каспар той двор Свір трымае і з тымі пяцьдзясят чалавекамі і з усім тым паводле запісу князя Яна Раманавіча. І вольны ён тое аддаць, прадаць, замяніць, расшырыць, да свайго ўжытку лепшага абярнуць, як сам найлепей разумее. А пры тым былі: вялебныя, вяльможныя, …: князь Войцэх біскуп Віленскі, ваявода віленскі канцлер пан Мікалай Радзівіловіч, ваявода Троцкі, маршалак земскі пан Ян Юрэвіч, пан Троцкі, стараста Жамойцкі пан Станіслаў Яновіч і іншыя паны рада. А на цвёрдасць таго і пячаць нашу прымацоўваем да гэтага нашага ліста.

Пісана ў Вільні, у лета 7011 месяца аўгуста 8 дня.

*Крыніца: Kodex dyplomatyczny katedry i diecezji wilenskiej (1387-1507) – Krakow, 1932. – 772 с., № 560, стар. 665-666.*

**Дакумент 2**

**Ліст абавязацельства сялян Лаўрыша Бернатовіча, Мацея і Станіслава Пупкаў служыць кіеўскай ваяводзінай Фрыдрыхавай Пронскай Фядоры Багушаўне ў яе маёнтку Камаі**

3 мая 1557 г.

Передо мною, Яном Андреевичом Новицким, наместником виленьским, постановившися очевисто, Лаврин Пашкович Бернатовича а Матей и Станислав Пашковичи Пупки [...] лист свой вызнаный [...] дали, [...] который жо лист слово от слова так ся в собе маеть:

Я, Лаврин Пашкович Бернатович, Матей Пашкович Пупко а Станислав Пашкович же Пупко весполок з жонами и з детьми нашими вызнаваем сами на себе сим листом нашим [...], иж будучи есьмо влостными и непохожими отчизными людми земенина г[оспо]д[а]рского пана Федора Михайловича Фурса именья его Спорского, зашли были есьмо от него на мешканье за небожчика славное памети кн[я]зя Фредриха Глебовича Проньского, воеводу киевского, до именья его м[и]л[о]сти Комай, тому пану своему отчизному в некоторых речах немало зашкодивши. И били есьмо чолом кн[я]зю его м[и]л[о]сти, абы нас ему не выдавал. Яко ж кгды по смерти кн[я]зя его м[и]л[о]сти тот пан наш кнегиню ее м[и]л[о]сти Фредриховую Глебовича Проньскую, воеводиную киевскую, кн[е]г[и]-ню Федору Богушовну при комисыях г[оспо]д[а]рских листы позовными перед кн[я]-зя бискупа виленьского и перед пана воеводу его м[и]л[о]сть виленьского и нас самых, и жоны, и дети наши, которого меновите а кождого стан мужчизнский и женьский именем написал и о многие шкоды, от нас ему заделаные, ку праву позывал. А так мы, ведаючи то до себе, иж бы есьмо правом от него отойти и вольными себе вчинити не могли тым жо обычаем, били есьмо кнегини ей м[и]л[о]сти чолом, абы ей м[и]л[о]сть нас не выдавала, а с тым паном нашим отчизным, не вдаючи ся в право о нас и о шкоды от нас ему заделаные, обычаем угодливым наложила, а выкупуючи от него нас своими властными п[е]н[е]зми, которую суму певную и за вси тые шкоды, што он от нас собе быти менил, ему заплатила. Где ж ее м[и]л[о]сть

за прозбою и за чоломбитье наше, ратуючи горла наши от того пана нашого отчизного Федора Фурса и въеднавши ег[о] черес приятели свои, рачила ему дати шестьдесят коп грошей личбы литовское. На чом жо он, досыть маючи, нас, подданых именья свое[го] Спорского, з жонами, з детьми нашими кнегини ей милости отпустил, вечне ся вырек и листом ся описал. Так теж мы сами призволяючи на то, абысьмы в той вышей описаной суме шестидесят копах грошей, поки бы ей м[и]-л[о]сть от нас сполна отдана и заплачона была, слугами и поддаными ее м[и]л[о]сти были, и кгды ж ее м[и]л[о]сть рачила ласку и змилованье свое над нами вчинити, а с такое беды и небезпечностей наших тою немалою сумою нас окупити и вызволити, сим нашим листом описуемся, иж ее м[и]л[о]сть кнегини Фредриховая Проньская, воеводиная киевская, яко властных отчичов своих и непохожих людей, нас з жонами и со всими детьми и потомки нашими нас собе вечне мети и в котором селеньи своем на службу посадити и водлуг подобанья воли своее з нами чинити маеть и вольна будеть. А мы жадное обороны правное собе противку ее м[и]л[о]сти чинити и воли ее м[и]л[о]сти ся ничим не спротивляючи противляти, и не оддавши ей м[и]л[о]сти сполна тое сумы шестидесят коп грошей, проч от ее м[и]л[о]сти мыслити не маем. А естли бы который з нас або дети и потомков наших кгды бы есмо ещо тых п[е]н[е]зей ей м[и]л[о]сти властных, за которые ее м[и]л[о]сть нас всих окупила, не отдали, проч от ее м[и]л[о]сти за которого иньшого пана выйти мели, тогды такового кн[е]г[и]ни ее м[и]л[о]сть без жадного права, яко властного отчича своего а непохожего ч[е]л[о]в[е]ка, вольна будеть взята и до именья своего вывести. Яко ж есмо ся перед врядом его м[и]л[о]сти пана воеводы виленьского виленьским, добровольно пришедши, сознали до книг врядовых и записати дали, а не мели есьмо своее печати до сего листу нашого, и мы били чолом их м[и]л[о]сти кн[я]зю Андрею Семеновичу Одинцевича, а пану Андрею Держку, дворенину его королевское м[и]л[о]сти, а кн[я]зю Андрею Кгедройтю о приложенье печатей. Их м[и]л[о]сти [...] то вчинили и печати свои к сему листу нашому приложите рачили. Который жо лист дали есмо ей м[и]л[о]сти на себе кнегини Воеводиной киевской, па-ней нашой м[и]л[о]стивой. Писан у Вильни лета Божьего нароженья тисеча пятсот пят-десят семого, м[еся]ца мая третего дня...

***Крыніца**: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. КМФ 18. Воп. 1. Спр. 252. Л. 215— 216 (з кн. "Памяць. Пастаўскі раён")*.

## КРЫНІЦЫ

1.Гінько Д. М. Гісторыка-геаграфічнае апісанне вёскі Вялікія Споры Пастаўскага раёна (навук. кіраўнік Пракаповіч І. М.) (рукапіс) (архіў Пракаповіча І. М.)
2.Гошкевич И. Виленская губерния. Полный список населенных мест со статистическими данными. – Вильно, 1905. – 342 с.
3.Зайкоўскі Э. М. Першабытныя помнікі паўночнай Беларусі / Пад рэд. М. М. Чарняўскага. – Мн.: Навука і тэхніка, 1990. – 44 с.: іл.
4.Зайкоўскі Э. М. Справаздача пра археалагічныя разведкі на паўночным захадзе Беларусі ў 2001 г.
5.Ляшкевич Э. Ихтиологические колекции из городища Б. Споры (Подвинье)//Гісторыка-археалагічны зборнік/Інстытут гісторыі НАН Беларусі, № 20 – 2005.
6.Памяць. Пастаўскі раён. – Мінск: БЕЛТА, 2001. – 688 с.
7.Пракаповіч І. М. Ваколіцы Паставаў: Помнікі прыроды, гісторыі і культуры з маршрутамі краязнаўчых вандровак. – Паставы: ВІ "Сумежжа", 2004. – 60 с.: іл.
8.Пракаповіч І. М. За смугою мінулых часоў: Старажытная гісторыя і археалагічныя помнікі Пастаўскага краю. – Мінск, Кнігазбор, 2011. – 112 с.: іл.
9.Пракаповіч І. М. Фізічная геаграфія Пастаўскага раёна. – Мінск: "Кнігазбор", 2007. – 124 с.: іл.
10.Пракаповіч І. М. Чароўны край – Пастаўшчына: (гісторыка-краязнаўчы курс "Паставазнаўства") – Мн.: "Кнігазбор", 2009. – 304 с.: іл.
11.Пракаповіч І. Назвы нашых мясцін. – Мінск, Кнігазбор, 2013 – 192 с: іл.
12.Пракаповіч І., Пракаповіч Ю. Памяткі Першай Сусветнай вайны на Пастаўшчыне. - Паставы, ТБМ-УП "Пастаўская друкарня", 2012. – 60 с.: іл
13.Разлуцкая А. Охота и скотоводство обитателей городища Б. Споры в Поозерье (железный век) //Музейны веснік/Нац. музей гісторыі і культуры Беларусі, вып 2 – 2005.
14.Сідорович О. Материалы раскопок городища Б. Споры//

Музейны веснік/Нац. музей гісторыі і культуры Беларусі, вып 2 – 2005.
15.Чарэнка Я. Зямля і гаспадары: "другія Саветы". // "Пастаўскі край", №№ 4, 6, 8,10, 12, 16, 19, 26, 28, 32, 36, 40, 42, 46, 48, 50, 54, 56, 58, 60, 62 (2013 г.).

**Матэрыялы занальнага дзяржаўнага архіва ў г. Глыбокае:**

1. Акты обобществления имущества. Колхоз "Слава" д. Ширки !950 г. Ф №Р-1215, опись 1.
2. Акты по проверке работы школ Поставского района за 1945-46 учебный год. Ф№Р-1200, №1680.
3. Сельскохозяйственная артель (колхоз) «Красная горка», д. Яцевичи Загачского сельского Совета Поставского района Молодечненской области. Ф. 1334, 2 ед. хр., 1951 г.
4. Сельскохозяйственная артель (колхоз) «Ясная зорька», д. Яцевичи Загачского сельского Совета Поставского района Молодечненской области. Ф. 1336, 2 ед. хр., 1951 г.

**Успаміны і матэрыялы:**

Баранскі Мікалай Васільевіч, жыхар вёскі В. Споры;
Навумчык Іосіф Адамавіч, ураджэнец в. Яцавічы, жыхар г. Віцебска;
Навумчык Эдвард Казіміравіч, ураджэнец в. Яцавічы, жыхар в. Вярэнькі;
Кірылава (Навумчык) Станіслава Іванаўна, жыхарка вёскі Салаўі;
Савіч (Лушчык) Станіслава Антонаўна, жыхарка вёскі Салаўі;
Маліноўская Наталля Васільеўна, жыхарка вёскі В. Споры;
Радко (Чалей) Уліма Адольфаўна, жыхарка вёскі Яцавічы;
Рудая (Радко) Зоя Генрыхаўна, ураджэнка в. В. Споры, жыхарка г. Паставы;
Гутар Генадзь Антонавіч, жыхар в. Кашыцы, былы дырэктар Вялікаспорскай васьмігадовай школы ў 1972-1984 гадах;
Квяткоўскі Віктар Іванавіч, ураджэнец в. Яцавічы, жыхар г. Паставы;
Пабядзінскі Аляксандр Аляксандравіч, ураджэнец в. Яцавічы, жыхар г. Паставы.

# ЗМЕСТ

